купацца ў Цічы — і пабачылі брутальнага выгляду «Джып». Па замчышчы з зацікаўленым выглядам лазіў Сяргей Чысел з нейкім маладым мужчынам. Як задаволіліся ўзаемнымі роспытамі і хлопцы з неахвотаю працягнулі раскопкі, Сяргей прапанаваў Алегу прагуляцца. Прызначыўшы «незабыўнага Віцька» старшым, перайшлі пешаходны масток, селі на беразе. Унізе хуткая Ціч несла мутную ваду, відаць у вярхоўі, на Міншчыне прайшлі дажджы.

— Я бачу — Віцька тут у лідарах ходзіць? — Пачаў Сяргей. — Чаму менавіта яго ты зараз старшым прызначыў?

— Ён насамрэч лідар. Вясёлы, жвавы, разумны. Хлопцы яго паважаюць і слухаюцца. У большасці… Зноў жа — гісторык, умее гутарку з Ірэнай падтрымаць. Астатнія слухаюць з задавальненнем. Я — у тым ліку… — адказаў Алег.

— А нічога падазронага за ім не заўважаў? — панізіў голас Сяргей.

— Што канкрэтна? — не зразумеў Алег. — Калі ты наконт якога зладзейства, то ў нас ні ў кога нічога не прападала…

— Не, я пра іншае… Як думаеш, адкуль я магу ведаць, што да вас начальнік міліцыі завітаў асабіста і спіс усёй групы зараз мае?

— Ты мяне інтрыгуеш… Ну, Ірэна па тэлефоне распавяла… Так?

— Не, з Ірэнай у мяне непасрэднай сувязі няма, я тут аднаму мясцоваму хлопцу тэлефаную, ён, калі што трэба, ёй перадае… Мне пра мянта свой чалавек з КДБ распавёў. А яму гэта вядома стала — не паверыш: Віцька даклаў. Ён тут за вамі ўсімі прыглядаць прыстаўлены. Дык я і пытаюся — Віцёк не знікае раптам на які час?

— Не заўважаў… — прамармытаў уражаны Алег. — Ты мяркуеш, ён павінен адлучацца, каб звязацца з гаспадарамі? Ну, для гэтага выдзеліць якія паўгадзіны тут лёгка. Я іх у краму адпускаю, на рэчку ходзім… Не ўсе ходзяць… Слухай! Ну стукае Віцёк — і хай стукае! Калі «канторы» зусім заняцца няма чым. Мы што — крымінальнікі якія? Тэрарысты? Мы дапамагаем раскрываць невядомыя старонкі беларускай



гісторыі! А калі няма за намі нічога кепскага, то чаго баяцца? Хай хлопчык пагуляе ў шпіёна!

— Яно то гэтак… — Голас Сяргея сцішыўся амаль да шэпту. — Але не забывайся, што «Белы легіён» я так і не здолеў зарэгістраваць, баяцца даць нам легальны статус. І за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі кожны можа вылецець з вучобы. Ты думаеш, мент сам прыдумаў наконт спіса? Не-а! Каб сам, то прыслаў бы якога бобіка, а тут бач — асабіста прыпёрся! Загад выконваў! Навошта гэб'ю спіс? Вельмі можа быць, што потым запатрабуюць павыганяць. І паламаюцца ў харошых хлопцаў лёсы…

— Дык я гэты спіс сам рабіў! — зарагатаў Алег. — Там ніводнай звесткі сапраўднай няма! Усё — ад балды! Праўда, і Віцькавы дадзеныя таксама… Здагадаюцца.

— Малойца! Машына гэтая цяжкая, пакуль дойдзе, што спіс фальшывы, нікога тут ужо не будзе. Адзінае, Віцька за час працы разведае пра таго-сяго. Трэ будзе гэты досвед добра запамятаць — выхоўваць легіянераў так, каб не шмат пра сябе распавядалі, — уздыхнуў Сяргей. — А можа, Віцьку пад якой-небудзь прапановай выдаліць з групы? Добра… Я над гэтым падумаю… А зараз у мяне да цябе прапанова… Хачу прасіць аб адной паслузе.

— Ну, кажы, — зацікавіўся Алег. — Мяне з вучобы ўжо не выганяць, спазніліся.

— Асабліва не храбрыся, не з вучобы, дык з працы… — запярэчыў Сяргей. — Справа такая. Хачу цябе з групы забраць, з ёю той хлопец застанецца, што я прывёз. Адразу паведамляю, што заробак, як дамовіліся, ты за працу з групай атрымаеш цалкам. А за гэтае новае даручэнне — асобна. Ну як, спакусіў?

— Ты ж ведаеш, я не з-за грошай згадзіўся папрацаваць, — пакрыўдзіўся крыху Алег. — Дакладней, не толькі з-за грошай. Я хачу штосьці пасільна карыснае для Беларусі і беларушчыны зрабіць! Калі здолею хоць да двух-трох гэтых хлопцаў павагу і любоў патрыятычную прышчапіць, то буду лічыць, што не дарэмна ў «камандзіроўку» з'ехаў.

— Справа такая. Некалькі звязаў «Белага легіёна» на заробках у Расіі. Добрыя грошы зарабляюць, у нас, пры нашай «аканоміцы» столькі не зарабіць. Дзясятую частку арганізацыі ахвяруюць. Вось вы тут харчуецеся, пальчаткі баксёрскія, намёты, заробак твой — гэта ўсё адтуль. Толькі з'ехаць з таго Сібіра з грашыма заробленымі хлопцы не могуць, небяспечна. Там за імі расейскія мянты цікуюць, ды і бандыты таксама. Таму пасля вахты яны без грошай дадому едуць. А заробак гендырэктар-працадаўца, дарэчы былы наш, з Гомельшчыны, павінен у Маскву прывезці. Раней я сам забіраў, а зараз атрымаў інфу, што гэб'ё гэтымі грашыма зацікавілася. І я не давязу, канфіскуюць. І будзе вельмі нядобра перад хлопцамі. А цябе ніхто ў «канторы» не ведае. Ды і з мянтом ты тут заеўся… А парода гэтая помслівая… То хачу цябе паслаць у Маскву. Вось такая прапанова. Згодзен?

— Гм… Дзякуй, што давяраеш… Сума вялікая? — Алег адчуў, як па спіне прайшоўся халадок, і недарэчна хіхікнуў: — Не баішся, што я з тымі грашыма?..

— Як для каго… Тысячаў пяцьдзясят. Зялёнымі. Хопіць, каб стаць мішэнню. А баяцца, што скрадзеш, — не! Сапраўды давяраю, можаш ганарыцца. — Прыплюшчаныя, падобныя на татарскія вочы Сяргея бліснулі ўсмешкай. — Дык згодзен?

— Добра, з'езджу. Зараз і збірацца?

— Так. На зборы гадзіны хопіць? Праінструкціруй свайго зменшчыка, прадстаў хлопцам. А наконт паездкі ў Маскву па дарозе ўсё распавяду. Ды там нічога складанага няма. Квіток да Масквы ўжо набыты, месца ў гатэлі забраніравана. Шыкоўны, між іншым, гатэль. «Масква». Дарагі, зараза, але наш пан дырэктар марку трымае, пантуе. Прыедзеш, паселішся і будзеш чакаць. Дні два-тры, дакладней ён не можа паведаміць. Калі што зменіцца, я табе патэлефаную ў нумар…



## 10

…У прастакутніку шыбы плаўна зрушыліся і паплылі вежы прывакзальнай плошчы. Алег адвярнуўся да акна, употай перахрысціўся і ў думках прачытаў «Малітву падарожніка»: «Госпадзе Ісусе Хрысце, Сыне Божы, ахоўвай мяне падчас майго падарожжа, заўжды давай добрую параду і падтрымку, барані мяне ад усякае небяспекі, будзь праваднікам маім і спадарожнікам. Аддаю сябе пад Тваю ахову і пакорна прашу Цябе: давядзі мяне да мэты майго падарожжа. На Тваю дапамогу я спадзяюся, і ўвесь час вочы мае на Цябе будуць звернены». У купэ апрача Алега тлусты мужчына гадоў пад сорак з кабетаю, відаць жонкай, і яшчэ адзін — чарнявы, гарбаносы, з вусікамі. «Ці то каўказец, ці яўрэй, — падумаў Алег. — Хутчэй яўрэй, бо погляд пукатых вачэй спакойны, у каўказцаў больш дзёрзкі. У таўстуна «конскі хвост» на карку, так зараз модна сярод праваслаўных святароў. І кабета ягоная ў хустцы, мабыць матухна. Хоць — не, матухне поп забараніў бы джынсы, для праваслаўных нагавіцы на жанчыне — грэх. Запхалі ў нішу, дзе матрацы захоўваюцца, тры вялізныя сумкі. У такіх «чаўнакі» тавары з Кітая ды Турцыі прывозяць. Можа, гандляры?»

Алег дастаў з кейса кніжку — паспеў на дарогу ў «Акадэмкнізе» набыць, — пагартаў, злавіў нясмелы зацікаўлены погляд:

— О-о! Вы читаете Шолом Алейхема… — твар чарнявага выражаў гранічную павагу. — И как вам? Нравится?

— Ды я толькі пачаў. Глядзеў некалі тэлевізійны спектакль «Малочнік Тэўе», спектакль мне спадабаўся, вырашыў вось, так бы мовіць, першакрыніцу…

Наверсе заварочаўся тлусты. Звесіў з паліцы галаву.

— Я извиняюсь, что вмешиваюсь в вашу беседу. На правах священнослужителя, — я протоиерей («Вось як я ўцэліў! — пахваліў сябе Алег. — А што матухна ў нагавіцах, то, можа, поп які мадэрновы…»), — считаю возможным посоветовать вам читать родных, русских авторов. Пушкина, Гоголя…

А особенно — книгу книг, Библию. А этого, — ён з асуджэннем паказаў вачыма на том у Алегавых руках, — отложить. Смутные времена! — Поп уздыхнуў. — Кніжные магазины завалены всяческой вредятиной, которую надо бы собрать в кучу и сжечь! Что делается! Мораль народа падает! Эти бесовские компьютеры, Интернет, телевизоры с развратными программами…

— Вы, ойча, памыляецеся. Рускія аўтары для мяне не родныя. Для мяне родныя — Караткевіч, Купала, Колас… Так што Пушкін з Гогалем у гэтым сэнсе раўназначныя Шолам Алейхему. А паліць кніжкі — ну гэта вы ўжо лішку загнулі, бацюшка!

— Но вы же православный человек! Я видел, как вы перекрестились перед отъездом поезда. Белорусы, украинцы — ответвления одного народа! Русского!

— Ага. Рускія, значыць, народ, а мы з украінцамі — нейкія «ответвления». Дзякуй, бацюшка! Але я не рускі і не праваслаўны, а беларус і грэка-каталік. Што не перашкаджае мне любіць творы згаданага вамі Гогаля. Магчыма, прачытаўшы, упадабаю яшчэ яўрэя, Шолам Алейхема.

— Это вы униат, что-ли? — уткнула тры грошыкі са сваёй паліцы пападдзя. Чарнявы яўрэй, сумеўшыся, заціснуўся ў кут і ў гутарку не ўступаў. — Ужас!

— Што такога «ужаснага» вы бачыце ў грэка-каталіках? — пакрыўдзіўся Алег. — Здаецца, не я прапаноўваў зараз паліць кнігі… Недзе гэта ўжо было. Скончылася для падпальшчыкаў кепска.

— Я не в прямом смысле… — даў задні ход поп. Відаць, быў упэўнены, што знойдзе аднадумца, і крыху зніякавеў. Але працягваў. — Я к тому, что люди сейчас совсем не читают родную литературу. Сначала надо своё прочитать, а потом уже за разных там… Бабелей браться. Вот вы, например, знаете хотя бы настоящие фамилию-имя-отчество вашего Янки Купалы? А? — І, не даючы Алегу сказаць, заспяшаўся: — Вижу, что не знаете… А фамилия его Луцкевич.



— Луцэвіч, а не Луцкевіч, — паправіў Алег. — Іван Дамінікавіч Луцэвіч… Дык што такога жахлівага вы, матухна, убачылі ў грэка-каталіках? Бог адзіны, так, ойча? — Той кіўнуў згодна: маўляў, так, адзін. — Дык чаму вас палохае, што людзі славяць Яго не пад вашым дахам? Што, у вас, бацюшка, лепшы «прыёмаперадатчык» да Творцы, чым у вашага калегі з Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы?

— Вы Папу своего слишком любите… Больше, чем Господа… — прамармытала кабета і адвярнулася.

— А ці ж кепска любіць свайго пастыра? Казаў жа святы Ян Залатавусны, што той, хто шануе пастыра свайго, той шануе Хрыста ў пастыры сваім, а хто крыўдзіць пастыра, той крыўдзіць Госпада… А наконт «болей» ці «меней» — якім метрам можна памераць любоў?

Поп на паліцы ўздыхнуў, крэкчучы, злез і выйшаў з купэ. Вярнуўся хвілінаў праз пятнаццаць з моцным тытунёвым «выхлапам». Забраўся назад і неўзабаве так магутна захроп, што заснуць Алегу амаль і не ўдалося…

…Як Сяргей і казаў, у гатэлі «Масква», безгустоўнай будыніне, што задушыла сабою ўсю акаляючую прастору, для Алега быў забраніраваны двухпакаёвы апартамент нумар чатырыста чатырнаццаць, на чацвёртым паверсе. Агледзеўся. Прасторны пакой, два акны, на сцяне маятнікавы механічны гадзіннік у драўляным корпусе. Злева ў куце сервант з посудам і столік з блішчастым электрычным самаварам. Бліжэй да вокнаў вялікі стол і шэсць крэслаў з высокімі спінкамі. Кветкі на стале. Справа на тумбе тэлевізар. Насупраць два фатэлі. Уся мэбля шыкоўная, з цёмнага дрэва, відаць арэха, вытрымана ў адзіным стылі, упрыгожаная мастацкай разбой. Расклаў рэчы, прыняў душ і ныpнуў пад коўдру на шырокім ложку ў малым пакоі-спальні. Прачнуўся ад бомкання насценнага гадзінніка, калі ўжо было цёмна, а за шыбамі рознакаляровымі агнямі іскрыўся велізарны мегаполіс. Уключыў бра над галавою, паспрабаваў чытаць Алейхема, але засяродзіцца на чытанні не ўдалося. Выйшаў у вялікі пакой. Уключыў тэлевізар, папстрыкаў па каналах.

З сумам адзначыў, што ноч, відаць, будзе бадзёрай і нэндзнай…

*…Жанчына ў доўгай лёгкай сукенцы стаіць, адвярнуўшыся да акна. Глядзіць праз шыбу і водзіць па шкле пальцам. Пачырванелае сонца апускаецца ў хмару за пыхлівым, брудным горадам з апусцелымі вуліцамі, перагароджанымі «вожыкамі Горыкера». Адсунуўшыся ад стала, сядзіць у крэсле, закінуўшы нагу на нагу, немалады ўжо, але яшчэ вабны мужчына. Хударлявы, з высокім адкрытым ілбом, які перасякаюць некалькі неглыбокіх зморшчын, цёмнымі валасамі, невялікімі дагледжанымі вусамі і запалымі сумнымі вачыма. Мудрымі-мудрымі. Быццам увесь сум і ўся мудрасць свету глядзяць з гэтых вачэй.*

*Падымаецца з крэсла, падыходзіць да жанчыны, пяшчотна бярэ за плечы, паварочвае да сябе. Нешта доўга гаворыць. Цалуе руку. Праводзіць да дзвярэй. Пайшла. Зноў садзіцца ў крэсла. Доўга аб нечым думае. Уздрыгвае, паварочваецца да дзвярэй. Уваходзіць мужчына ў шэрым касцюме. Размаўляюць. Сышоў.*

Алег расплюшчыў вочы і страсянуў галавою. Такі знаёмы твар! Дзе ён мог яго бачыць? Дзе? Дзе? Хадзіў па пакоі і спрабаваў успомніць, ад напругі ажно забалела галава. Хто? Дзе? Чаму тут, у месцы, дзе ніколі дагэтуль не быў, такі знаёмы твар?

І раптам як стрэл — здагадка! «Не, не можа быць… Ці — можа?»

*Выпрастаная спіна, сухі твар з вусікамі… Лоб… Вочы… Нос…*

Ён! Янка Купала! Не-ве-ра-год-на! У гэтым нумары спыняўся Янка Купала!

*Падышоў да гардэробнай шафы, дастаў капялюш. Аб нечым задумаўся, усміхнуўся сам сабе, махнуў рукой. Паклаў капялюш на ранейшае месца. Выйшаў з апартамента.*

Пахапліва, быццам баючыся не дагнаць, уздзёр на сябе спартыўны касцюм, выйшаў «следам», зачыніў дзверы на ключ, агледзеўся. Калідор, пляцоўка, мармуровая лесвіца



былі пустыя. Гатэль спаў у гэты позні час. Проста на падлогу, у «свастыкасану». Маніпуляцыя пальцамі.

*Павольна падымаецца па лесвіцы на пяты паверх. Даланёй пахлопвае па парэнчах. Схаваўся за чарговым пралётам…*

Падняўся на паверх вышэй. «Свастыкасана».

*…Прайшоў шосты, падымаецца вышэй…*

*…Сёмы…*

*…Дзявяты…*

*…Дзясяты… Спыніўся, трымаецца за парэнчу, аддыхваецца.*

— Вам плохо? Может, врача? — Расплюшчыў вочы, пабач кабета ва ўніформе, абслуга гатэлю. Устрывожана ўглядаецца. Натуральна, устрывожышся: сядзіць на пляцоўцы хлопец, вочы закаціў, ногі вузлом сплёў і пальцамі пстрыкае…

— Не-не! Дзякуй, усё ў парадку. Хатха-ёга, а ў нумары душнавата, то я сюды… Нічога не трэба! — па-беларуску, забыўшыся, спяшаецца супакоіць Алег.

— Говорите по-русски… Ничерта же непонятно!..

— Простите. Я говорю — всё в порядке, спасибо… Физкультура…

Усміхнулася недаверліва, але пайшла.

Далей. Што там далей?

*…Пастаяў, аддыхаўся. Стукаецца ў дзверы нумар 1034, уваходзіць…*

Маніпуляцыя пальцамі… Заскакалі «кадры».

*Дзверы пакоя 1034 адчыняюцца, выходзіць Іван Дамінікавіч, азіраецца. У белым карункавым фартушку і гэткай жа наколцы на валасах маладая кабета, відаць афіцыянтка, накіроўваецца на адзінаццаты паверх. Купала нешта ёй кажа, яна ўсміхаецца, варушацца вусны, адказвае.*

*Мужчына, той, шэры, які заходзіў у 414-ы. Падымаецца знізу. Аб нечым гутараць Твар Купалы пахмурнее. Зверху, з адзінаццатага спускаецца яшчэ мужчына, безаблічны, таксама ў шэрым. Крадучымся крокам падыходзіць ззаду да Купалы і раптам абхоплівае яго за шыю, валіць назад. Першы б'е Ку-*

*палу ў твар, потым хапае абмяклае цела за ногі, і яны ўдвох цягнуць яго да парапета. Купала прыходзіць да прытомнасці, б'ецца ў іх руках, спрабуе ўдарыць нагамі ў жывот нядаўняму суразмоўцу. З нагі паэта злятае туфель, адскочыўшы ад ног нападаючых, адлятае на пляцоўку паміж паверхамі. Яшчэ два ўдары ў твар, і шэрыя перавальваюць Купалу праз парапет, у пралёт. Мільгае ягоная разутая нага ў цёмна-сіняй шкарпэтцы. Мітусліва бягуць уверх па лесвіцы. Насустрач спускаецца афіцыянтка ў фартушку. Расчыняюцца дзверы 1034, вывальваецца некалькі чалавек. Афіцыянтка імгненна разварочваецца, узбягае следам за шэрымі…*

— …Эй, уважаемый! Гражданин! — Міліцыя, трое: лейтэнант і два малодшыя сяржанты. Відаць, тая, ва ўніформе паведаміла. — Документы, будьте любезны!

— Документы?.. — Алег не можа адысці ад толькі што ўбачанай жахлівай «карцінкі». — Какие документы? А! Мои документы?

— Да-да. Ваши паспорт или другое удостоверение личности…

Захацелася спытацца пра іхныя, але толькі што бачанае, спыніла. Халера яго ведае — ноч, сведкаў няма, зараз схопяць за рукі-ногі, і туды ж, у праём…

— Мои документы в номере… В четыреста четырнадцатом…

— А позвольте полюбопытсвовать — зачем это вы тут расселись на площадке десятого?

— Да так… Долго объяснять…

— Вы уж потрудитесь объяснить…

— Ну… Не спалось… Вышел походил по лестницам, чтобы устать немного, а здесь почувствовал головокружение и присел расслабиться… — фантазіруе Алег, імкнучыся быць як мага больш пераканаўчым. Не хапае толькі трапіць у пастарунак! «Не шанцуе мне з мянтамі… — думае Алег. — Асабліва як зазіраю ў мінулае…»

…З дырэктарам так і не сустрэўся. Як шпіёны, далібог! Былы зямляк патэлефанаваў у нумар, прадставіўся Толікам і назваў дзве лічбы. Сяргей папярэджваў, што можа быць гэткі варыянт. Паехаў на Курскі вакзал, першая лічба — нумар ячэйкі камеры захоўвання, другая — шыфр. Забраў там пластыкавую торбу з тугім пачкам, загорнутым у газету «Красный Север». Вярнуўся ў гатэль, пераклаў пяць брыкетаў «баксаў» у адмысловы пояс, надзеў пад кашулю на голае цела. Паглядзеў на сябе ў люстэрка. Не бачна. Сабраў рэчы і пакінуў «Белакаменную». Усю дарогу да Мінска ўваччу стаяў эпізод, як Песняра перакідваюць праз парапет. Спіной у праём. Туфель на пляцоўцы паміж паверхамі, кроў на парэнчы…

## 11

— Сяргей, што ведаеш пра смерць Янкі Купалы? Я са школьнай праграмы памятаю: 1882–1944. А пацікавіцца дакладней неяк не здагадаўся ніколі, — пытае Алег. «Зялёныя» аддаў, пра ход «аперацыі» прыёму-перадачы распавёў.

— Няправільна памятаеш. У сорак другім загінуў. Дакладна. Цёмная нейкая справа… Кажуць — ці то самагубца, у пралёт лесвічны скокнуў, ці то п'яны ўпаў… А мо гэб'ё скінула, невядома. Здаецца, нават, у тым гатэлі, дзе ты зараз быў, у «Маскве». А што?

— Ды так, нічога. З папом ехалі ў купэ, заспрачаліся наконт Купалы… Нічога…

— Алежык, у мяне да цябе яшчэ адна просьбачка, апошняя гэтым годам. Дакладней — крайняя, — папраўляецца Сяргей. — Мы ў «Белым легіёне» штогод ладзім закрыццё летняга лагернага сезону. Хлопцы, каторыя адбылі летнік, здаюць на «сталёвыя берэты». Спачатку марш трыццаць кіламетраў па перасечанай мясцовасці, потым сілавыя практыкаванні, і ў канцы — бой з дзесяццю кваліфікаванымі тай-баксёрамі, майстрамі спорту. З кожным па адной хвіліне. Хто не зламаецца да самага канца, вытрымае — атрымоўвае «сталёвы берэт». Дык вось я падумаў, што ў тваіх мясцінах вельмі мясцовасць падыходзіць для гэтых выпрабаванняў. Балоты, рэкі, гушчары… Хачу, каб ты падрыхтаваў «трасу»

для маршу, спачатку на карце, потым на мясцовасці зрабіў кантрольныя кропкі. І месца для баёў. Рысталішча, так бы мовіць... Праца гэтая, натуральна, як і ўсе астатнія — ганарарная! Зробіш? — Сяргей пранікнёна заглядае Алегу ў вочы.

— Ёсць харошая мясціна для «рысталішча»... На беразе ракі, чысцюткай, як сляза цнатліўкі, — кажа Алег. — І ад ганарару я адмаўляюся. Замест ганарару трэба, каб ты з хлопцамі прывёз туды мяхі чатыры цэменту, пясок, каменне ці цэглу, можна бітую. Прычэпа да легкавушкі хопіць... І каб хлопцы гадзіны чатыры-пяць папрацавалі. Там у аднаго дрэва, майго сябра, «карыёз». Вылечыць хачу...

* * *

...Чырвонае сонца падымалася над хмызамі, над абалонай ракі, завешанай вэлюмам ранішняга туману. Легкавік нетаропка рухаўся сярод росных траваў па каляіне, вытаптанай сялянскімі вазамі.

— Дарогу паказвай, не зблудзі... Тут налева ці направа? — пытае Міхась, напружана выглядаючы шлях перад машынай.

— Налева... Калі ты навучышся дарогу запамінаць? — нязлосна бурчыць Алег.

— Глянь! Стаіць той дуб! Я думала, абрынецца! — вішчыць ззаду Чэ. — Спыніся, Мішка!

— Ён яшчэ тысячу гадоў прастаіць, — задаволена кажа Алег. — Бачыце, якую пломбу легіянеры паставілі? Бетонную! Яму зараз аніякая бура не страшная. — Падае руку заўважна патаўсцелай у таліі Настассі. — Асцярожненька, Наставачка, не забывайся аб сваім «цікавым стане».

Над наваколлем раскінуў зялёнае воблака лістоты, аточанае трывожна задранымі сухімі галінамі, таўшчэразны дуб. Нібыта плыве. У стагоддзі.



# Апавяданні





# Мімалётныя сустрэчы з этна-марскім пейзажам

Бывае так: ідзеш па вуліцы, думкамі недзе ў астрале, а тут кідаецца чалавек. «Здароў! А я бачу — ты! Зусім не змяніўся! Гэта ж колькі гадоў не бачыліся! Ну ты як? Ажаніўся нарэшце?» А ты ўжо дваццаць гадоў жанаты… І чалавек, здаецца, зусім незнаёмы. І чамусьці няёмка сказаць, што незнаёмы. Замест гэтага робіш радасны твар і адказваеш: «Здароў!.. Ну ўжо ж так і не змяніўся!.. Ой, сапраўды! Колькі гадоў!.. Перпендыкулярна… Ажа-аніўся…» А чалавек кажа, насцярожыўшыся: «Перпендыкулярна? Чаму не паралельна?» І ты тлумачыш, што ў матэматыцы перпендыкуляр да якой-небудзь паверхні называецца «нармаллю», значыць, «перпендыкулярна» і «нармальна» — адно і тое ж. «Пачакайце, пачакайце! — кажа чалавек, пераходзячы на “вы”. — Вы ж Борка… Гэты… Халера… Прозвішча забыўся… Ты глянь… За адной партай сядзелі, а вось — забыўся…» А ты зусім не Борка, а Тадзік ці Міколка. І — палёгка… Не трэба напружвацца, узгадваць… «Вы памыліліся»…

Я пра тое, што няёмка мне адразу спытаць: «А, пардон, Вы хто?» Ці там: «З кім маю гонар?» І мне гэта здаецца вельмі беларускім… Можа, памыляюся, нават хутчэй за ўсё памыляюся, але вось такое, што няёмка спытаць: «Ты хто?» — у маім уяўленні і ёсць галоўная беларуская якасць. Ці галоўная рыса… Ну, хай не галоўная, проста — рыса.

…

Школьнікам яшчэ… Зайшоў да аднакласніка, а ён па тэлевізару кіно глядзіць. Я быў у гэтага аднакласніка… м-м-м… Лепш за ўсё было б сказаць «закаханы», але для сённяшняга часу не падыдзе гэтае слова. Тады б падышло, а зараз — не. Скажам — я яго вельмі паважаў. І прыклад браў. І зайздросціў крыху. Высокі, яркі, чорная хвалістая грыва на галаве, чорныя бровы, нос з гарбінкай. Спартыўны, упэўнены, голас ужо паламаўся — барытон. І я — кірпаты, жменька саламяных мяккіх валасоў на галаве, пісклявы… Побач з ім мяне папросту не відно было. Прынамсі дзяўчаты не заўважалі…

…Сеў і я кіно паглядзець, хоць пачатак прапусціў. Нешта там было пра дыямент, які схавалі ў рэстаране ў сальнічцы. Вакол гэтага дыямента там усе дзеі круціліся — бойкі, пагоні, стральба…

Утрох глядзелі. Аднакласнік, бацька ягоны, і я. Маці па дому нешта рабіла. Зойдзе, выйдзе… У чарговы раз заходзіць і пытаецца… Яна та́к спытала, што ў мяне тое пытанне дагэтуль перад вачыма… Ці ў вушах… Пытаецца: «Ну і што?.. Знайшлі ўжо тую сальнічку, што ўсё́ можа зрабіць?»… Я зялёны быў, але адразу адчуў — гэтак спытацца ніколі ні мая мама, і ўвогуле ніводная знаёмая жанчына не здолела б… Так пытанне паставіць: «Усё можа…». Нават і цяперашні я не веру, што грошы ўсё могуць…

Каб яны ўсё маглі, багацеі жылі б вечна…

…

У ВНУ першы раз па конкурсе не прайшоў… Бацькі перажывалі… А я — не, хоць і марыў аб адукацыі.

Пашпарт у сельсавеце не давалі. Хацелі ў саўгасе пакінуць. Пашпарт патрэбен быў, каб у Мінску на працу ўладкавацца. Потым, праз скандал, выдалі…. Зрабілі… Гэта называлася «зрабіць пашпарт»…



У Мінску вырашыў магчымасці сталіцы выкарыстаць, на бокс запісаўся. Трэнера, да якога трапіў, Язэпа Ісакавіча толькі што з Узбекістана нейкім чынам у Беларусь завабілі. Кожны дзень пасля працы — на трэніроўку. Ганарыўся страшэнна, што я баксёр. Узгадваў пра гэта кожныя секунд трыццаць. Вось іду, і кожныя трыццаць секунд: «Я — баксёр!» На спаборніцтвы стаў ездзіць. Язэп Ісакавіч на працу даведку даваў, што просіць адпусціць з прычыны спаборніцтваў. І адпускалі… Паважаў трэнера так, што скажы ён: «Памры!», то, здаецца, адразу ж намаганнем волі і памёр бы… Не таму, што на спаборніцтвы, ці там за талоны ў сталоўку, якія я шакаладам «атаварваў»… Проста ён умеў з намі…

…Мы там, на трэніроўках, па-руску стараліся размаўляць. Усе беларускамоўныя, з вёсак, але ж — горад! Стараліся не адрознівацца. А Ісакавіч аднойчы падкусіў нязлосна: «Мокррай тррапкай па брруху!» Разанула гэта мне па сэрцы. Не тое каб пакрыўдзіўся, паважалі мы трэнера вельмі, аб крыўдзе і гаворкі быць не магло. Забыўся пра гэты выпадак хутка, але недзе глыбока ён засеў…

Вясною пачалі ў ваенкамат выклікаць. Медкамісія, прыпісное пасведчанне… Да прызыву ў войска рыхтавалі. Заадно агітавалі ў ваенныя вучэльні паступаць. У ваенкаматаўскіх план па накіраванні ў вучэльні… Ну і я вырашыў — пайсці на дзяржаўным хлебе вышэйшую адукацыю атрымаць, бо сястра падрастала, бацькам двух студэнтаў не пракарміць было… Язэп Ісакавіч як даведаўся, ажно ўзвіўся: «Кінь дурное! Я цябе ў любы інстытут прыстрою, выбірай!» І тут усплыла ў памяці «мокрая тррапка». Нічога не сказаў трэнеру, але зрабіў па-свойму. У вучэльню паступаць паехаў. Зараз думаю — па-беларуску атрымалася. Не шкадую. Зусім…

…

Толькі што за шыбай вагона — вежы прывакзальнай плошчы, маміны вочы са слязінкамі, сур'ёзны татаў твар, і вось ужо «та-та-тах, та-та-тах», едзем. Вагон агульны,

дзяржава эканоміць. Невядома, паступіць «накіраванец» вучыцца ці папросту за казённы кошт у падарожжа з'ездзіць, так што пакуль агульны. Потым, курсантам ужо, у плацкартным вазілі, а афіцэрам — купэйны. Удвох едзем, з Казікам. Я ўпершыню так далёка выправіўся, ажно ў Баку. Казік сябе ўпэўнена пачувае, кажа, шмат куды ездзіў. З ім спакайней.

Народу ў вагоне процьма. Заходзяць, выходзяць. Казік месца заняў, а мне не хапіла. Забраўся на трэцюю паліцу. Там бохан хлеба ляжыць. Круглы. Жоўты. Цвёрды, як камень. Я яго ў кут пасунуў, валізу пад галаву, ляжу. Горача, уся скура вільготная. І слізка. Як цягнік тармозіць, прыходзіцца рукамі чапляцца, каб не зваліцца.

Самае важнае — дакументы і пяцьдзясят рублёў грошай — пры мне, у кішэні нагавіц. Мама папярэджвала — могуць абакрасці. Кішэнь шпількай сашчэплена.

Назіраю зверху за Казікам і зайздрошчу. Ён такі смелы, лёгка ўступае ў гутаркі, шмат аб'ездзіў і не баіцца… А мне страшна, хоць сам сабе я ў гэтым не прызнаюся. Нават не страшна, а… трывожна, ці што…

— …Доктар, старшыня камісіі, сказаў: «Цябе, Курыла, мофна хоць на самалёт садзіць, хоць у космас адпраўляць. Выключнае, кафа, у цябе здароўе…» — хваліцца Казік. Ён замест «ж» і «ш» вымаўляе «ф». — А калі правяралі станавую сілу, то доктар нават занепакоіўся, каб я той дынамометр не зламаў. «Стой-стой! — кафа, — ты мне дынамометр зламаеф! Ты фто, фтангіст?» А я ніякі не фтангіст. Я ад прыроды моцную спіну маю…

Сонца коціцца ўперадзе цягніка. Пыльныя дарогі з паласатымі шлагбаўмамі ўцякаюць ад вагона. Канец чэрвеня.

Бабуля гадоў пяцідзесяці, з унучкай, увесь час акно зачыняе. А рама пакрысе спаўзае ўніз, і ў шчыліну ўрываецца пах свежага сена. Твар у бабулі злосны, злуе, відаць, на шчыліну. Унучка з потным чырвоным тварыкам спіць, раскідаўшыся на нейкай адзежыне.



— …Ідзі, кафа, у лётнае. Там на тройкі здасі — і паступіў. Там абы здароўе было моцнае, — балбоча Казік. — Знайфоў дурнога! Дактары з камісіі міф сабою кандыдатаў у лётнае смяротнікамі называлі! Я, як пачуў, думаю: не, няма дурных!..

Мужчына ў пінжаку (і не горача яму!) цікавіцца ў Казіка, куды ён едзе паступаць.

— У марское, — адказвае Казік.

— З ума вы сышлі, што лі? — кажа бабуля, што баіцца проймы. — Всю жызнь падневольнымі!..

— Ну, што вы, кабетка… —пярэчаць ёй. — Хлопцы ж на афіцэраў будуць вучыцца. Самі будуць камандаваць…

— Я вам не кабетка! — сціскае тонкія вусны.

— Чаму гэта «з ума сыфлі»? — крыўдзіцца Казік. — Мора. Краіны розныя. Свет пабачым. Заробкі там, кафуць, добрыя… Рамантыка! Вы былі калі-небудзь на моры?

— Зачэм мне эта мора? Не пані…

— І я не бачыў… А хочацца не толькі ў кіно.

— Я бы своего сына нікада бы не атпусціла… — І адварочваецца да акна.

Мне становіцца яшчэ страшней. Страшней, чым нават тады, як мяне даганяў галоўны школьны хуліган, па мянушцы Блатны. Дагнаў, бо я не ўцякаў, сорамна было ўцякаць. Я толькі крокі прыспешваў. Было страшна, але бегчы саромеўся, і сорам пераважыў. Дагнаў. І рассадзіў нос…

Добра, што мы ўдвох…

Мяне ў школе, бывала, білі. А я біцца не ўмеў. Часам нават не разумеў, што мяне ўжо б'юць, думаў — проста валтузімся па-хлапечы. А тут раптам — бах! Іскры ўваччу, кроў з носа… А зараз я — баксёр. Не так даўно ў дварах на Нямізе двое п'яных хлопцаў прычапіліся, пакуражыцца хацелі. Цюк-цюк, і хлопцы на задніцах сядзяць. Ажно сам здзівіўся…

…На світанку праз шчыліну ў вагон прыйшоў пах зерня. Як па Беларусі ехалі, пахла сенам, а зараз — зернем. Я гэта адразу адзначыў… Казік прачнуўся. Უначы бабуля з унучкай сышлі, месца вызвалілася, і ён разлёгся. Прачнуўся, зірнуў у акно — і раптам паніка ўваччу: «Ё-маё! Гэта ф так далёка!»

Тут якраз праваднічка па праходзе ідзе: «Подъезжаем к Харькову! Стоянка — полчаса!»

Казік замітусіўся па купэ і заенчыў: «Чаго мяне панесла ў такую далечыню! Ай і прыдурак! Перціся ў чуфы свет! Цягнікі гэтыя смярдзючыя, ні паспаць, ні дыхаць! Усё! Вяртаюся! Ты як хочаф, я зараз сыду і — назад!» І з рундука валізу цягне.

— Ты проста кепска выспаўся! — спалохаўся я. І мне паніка перадалася. Сэрца хоча, каб разам з Казікам трымаўся, а розум патрабуе далей ехаць. Такое ў душы раздваенне, ажно млосна стала…

Татавы словы згадаліся. Яны з мамай незадаволены былі, што я ажно ў Азербайджан выправіўся, але моцна не пярэчылі. Хацелі, каб я адукацыю працягваў. Тата казаў неяк, што наш лёс, нашага роду — па свеце падарожнічаць, але ўсё роўна ўрэшце дадому вяртацца. Ну, вось і вярнуся… Але ж так хутка, праз два дні… Сорамна як… І вучыцца хочацца…

А Казік усё скуголіць:

— А-вой, які я дурны быў! Чаго гэта мяне папёрла ў свет!

— Што — паразумнеў за адну ноч? — пад'ялдыкнуў я. Можа, супакоіцца, ды паедзем далей разам. Сам я яшчэ змагаўся ўнутры, каб гэтак жа не замітусіцца. — Казік, у нас жа на зваротны шлях вайсковых патрабаванняў няма. Ваенкам сказаў, калі не паступім, то ў вучэльні павінны выпісаць…

Усё ўтрымаць хацеў, хоць яшчэ і сам у сабе не быў упэўнены.

— Пайфлі яны са сваімі дакументамі! За свой кофт вярнуся!

Ну вярнуся я назад. Будзе тату з чаго кпіць. Паступлю куды-небудзь у Мінску. Тата хоча, каб на ляснічага, як некалі прапрадзед Домка быў. І буду ўсё жыццё ў лесе… Мала таго лесу ў маім жыцці было — восем гадоў на дзедаўскім хутары пражылі, пакуль бацькі ў вёсцы хату збудавалі…

А калі не паступлю? Увосень пастрыгуць «пад Катоўскага» — і ў войска. І бывай, мары аб адукацыі…



Што мне гэты Казік? Я яго заўчора яшчэ не ведаў… Што я за ім, як цяля за маткай? Не малы ўжо…

Цягнік прыпыніў хуткасць і запоўз на станцыю. Праплылі вакзальныя пабудовы, уварваўся шум натоўпу на пероне. Праход запоўнілі людзі, Казік уціснуўся ў іхні шэраг. Сышоў. Нават не развітаўся.

А я залез на сваю трэцюю паліцу з закамянелым боханам і як знепрытомнеў. Толькі чапляўся рукамі, калі цягнік тармазіў. У сэрцы жыла роспач. На прыпынках ветрык заносіў у вагон пах перагрэтага алею, але есці зусім не хацелася. Гэта было добра, бо грошы належала ашчаджаць…

…

…У Растове я ўпершыню ў жыцці адчуў сябе беларусам. Дагэтуль я толькі ведаў, што я — беларус, а не адчуваў. А тут адчуў. І мне гэтае адчуванне спадабалася.

У Растове, пра які я ведаў толькі, што гэта сталіца злачынцаў, «Растоў-тата», трэба было перасядаць на другі цягнік. Гэты, з Мінска, ішоў да Растова, а далей трэба было перасесці… Там я пазнаёміўся з трыма хлопцамі. Яны самі падышлі, і я падумаў ужо, што банда… А яны прапанавалі трымацца разам. Пачулі, як я каля касы пытаўся пра цягнік на Баку. Аказалася, што яны таксама ў Баку і таксама ў ваенную вучэльню. Толькі не ў марскую, а ў агульнавайсковую. Мы пазнаёміліся, і я адразу забыўся, як каго клічуць. А перапытваць саромеўся. Так ехалі двое сутак — я здолеў ні разу не назваць нікога па імю…

Яны выклікалі ў мяне спачатку недавер, усё ж «Растоў-тата», а потым поўны давер. Да цягніка ў нас было тры гадзіны, і хлопцы прапанавалі «экскурсію» па горадзе. І калі я хаваў валізу ў ячэйку камеры захоўвання, то ўсе дэманстратыўна адвярнуліся. Каб не бачыць, які код я набяру. Я набраў свой год нараджэння. Хто ж можа адгадаць мой год нараджэння?.. Пасля гэтага я стаў ім цалкам давяраць…

Хлопцы спачатку звярнулі ўвагу на мой акцэнт. (А я лічыў, што за год працы ў Мінску рускай авалодаў бездакорна…) «Ты разговариваешь, как министр Громыко… Он разве белорус?» Потым пачалі цікавіцца беларускай мовай. «Скажи что-нибудь по-белорусски…» — «Что сказать?» — «Ну, как по-белорусски “женщина”?» …О, жах! Замкнула!.. Уф-ф! «Жанчына!..» — «А… “беседка”?» — «Альтанка». — «Здорово! Красиво звучит. А…»

Было вельмі-вельмі прыемна адказваць на іх пытанні і адчуваць сябе знаўцам дзвюх моваў… Хлопцы жвава цікавіліся нашымі звычаямі, і гэта выклікала незнаёмае дагэтуль мне задавальненне. Незнаёмае ў тым сэнсе, што цябе пытаюцца, ты адказваеш і ад гэтага — кайф! Ты аказваешся носьбітам нечага такога, што іншым невядома… А раней ты лічыў, што гэта вядома кожнаму проста з прычыны яго існавання…

…У вагоне зноў цісканіна, і я звыкла ўжо ўскараскаўся на трэцюю паліцу… А на паліцы там ляжаў мой «спадарожнік» — скамянелы бохан. Лёс падсунуў у новым цягніку той жа вагон і тое ж купэ, у якім ехаў дагэтуль. Я падумаў і вырашыў лічыць гэта добрым знакам… Потым стала прасторней, але спякота станавілася невыноснай. Акно трымалі адчыненым, і адтуль дзьмула гарачым паветрам. Ні халеры яно не студжала… Каб не мае новыя знаёмцы, якія ўсё цікавіліся Беларуссю, было б вельмі пакутліва. А так — шлях прамільгнуў амаль незаўважна…

…

За сваё нядоўгае на той час жыццё я марыў стаць (па чарзе): касманаўтам — бо пра іх увесь час казалі па радыё, афіцэрам — бо ў яго пісталет, артыстам цырка — бо мне вельмі падабаўся Нікулін у «Каўказскай палонніцы».

Жыццё складвалася так, што ехаў я ў ваенна-марскую вучэльню. Як ні круці, выходзіла, што адна з мараў нібыта прыбліжалася да рэалізацыі. Мэта падарожжа пахла газай. Не ў пераносным сэнсе, а ў літаральным. Бакінскае паветра…



Апошні адрэзак шляху да вучэльні праехаў на таксі. Толькі выйшлі з хлопцамі на ганак вакзала, падскочыў чарнявы, вусаты-насаты дзядзька ў вялізнай кепцы. Адразу прыгадалася «Каўказская палонніца». З усяго, што ён са страшэнным акцэнтам прагергетаў, удалося вычленіць «…военно-морской учіліщ…». За спіной насача мае спадарожнікі закочвалі вочы і рабілі знакі, каб не згаджаўся, маўляў, шмат здзярэ грошай.

А я вырашыў: калі да пяці рублёў, то ехаць з дзядзькам, калі болей — шукаць грамадскага транспарту. Не можа быць, каб да ваеннай вучэльні не было грамадскага транспарту…

…Насаты захацеў дзесяць. Я ў адказ сказаў, што гэта мне не па кішэні, і ў сваю чаргу прапанаваў тры. Ён як вятрак замахаў рукамі і нешта закрычаў, можа: «Гвалт! Рабуюць!». Потым адвёў да пашарпанай «Волгі» і папрасіў пачакаць. Урэшце я паехаў за траяк. Але пасажыраў у таксі набілася ажно сем чалавек. Я сядзеў на каленях у пярэдняга, скурчаны, як эмбрыён…

…Гэта грандыёзна! Таксі выехала за горад, ускараскалася на гару, і ўнізе раптам — глыбокая сінеча, быццам перакуленае неба, толькі нашмат ярчэйшае. А ўдалечыні — раўнюткая лінія між сапраўдным небам і морам, неба тут выгаралае, бляклае ад спякоты. І на тым сінім, быццам цацачныя — караблікі. І выспа з маяком. І сонца, чырвонае, як велікоднае яйка, усплывае з глыбіняў… Мае сумненні (былі… шкрэблі недзе там…) адразу зніклі, як лёгкае воблачка пад гарачымі промнямі.

…На прахадной мяне забраў марак у не бачанай мной дагэтуль форме з брудна-сіняга брызенту. Толькі блакітны каўнер на плячах і бесказырка сведчылі пра мора. На кашулі злева на грудзях белая стужка з лічбамі. Яны мне асабліва не спадабаліся… У думках я бачыў сябе апранутым інакш. Як у кіно — у белай кашулі, чорных нагавіцах… Не ў такую… хламіду… Ды яшчэ з нумарам, як зэк. Нешта зноў зашкрэбла…

…Заспаны мічман спрытна абшнарыў маю валізу і жэстам фокусніка выхапіў з яе сцізорык, ахвяраваны татам на дарогу. Паведаміў, што за такі нож даюць тры гады зняволення.

І прамармытаў пад нос: «Мля, уже даже бульбоны с ножамі ходят...» Не шкада было сцізорыка, не вельмі пакрыўдзіўся за «бульбона» — кальнула, як вострым, гэтае «даже»... Нібыта адсарціравалі і паставілі ў самы кепскі гатунак... Я зразумеў так, што нож пры сабе мець нельга, а беларусу дык зусім нельга... Абсалютна... Больш чым іншым нельга... Але не таму, што ён самы небяспечны, а таму, што... ну... недастойны...

Мічман адвёў мяне ў спартзалу, устаўленую двухпавярховымі ложкамі. Пра іх я чуў ад «дэмбеляў», але бачыў першы раз. На ложках валяліся апранутыя абітурыенты. Пасунуліся і растлумачылі, што мы ўсе чакаем размеркавання ў абітурыенцкія роты, а калі гэта адбудзецца — невядома. Але не раней за сняданак.

Я выслізнуў з памяшкання, пералез праз высокую мураваную сцяну і накіраваўся ў бок мора. Яно было побач, адразу за пяціпавярховымі дамамі. Бераг аказаўся топкім, смярдзючым, з чорнай цягучай граззю. Я тыцнуўся пару разоў, убіўся ў балота, заквэцаў туфлі і пайшоў шукаць добрай дарогі. Тут жа павінна быць добрая дарога!

Жанчына ў дварах пяціпавярховак, прыязна ўсміхаючыся, паказала накірунак, і я пабег. Трэба было спяшацца. Мічман папярэдзіў: за «самаволку» адразу накіроўваюць дадому. Дадому хацелася, але хацелася і пераменаў у жыцці. А больш за ўсё хацелася вучыцца.

Захэкаўшыся, выбег на мыс, да пляжа, абгароджанага гэткай жа сцяной, як і вучэльня, толькі ніжэйшай. Над уваходам вісеў кавалак фанеры з незнаёмым словам «Солярий», побач нехта крэйдай накрэмзаў «с мазутом». Сапраўды, у паветры быў разліты пах ці то газы, ці то саляркі... Па гэтым паху я нават зараз, каб мяне соннага завезлі ў Баку і пабудзілі, яшчэ не расплюшчыўшы вачэй вызначыў бы перамены ў каардынатах...

Першае ў жыцці знаёмства з морам не сталася прыемным. Кінуўся ў ваду і паплыў. Тэарэтычна ведаў, што вада ў моры салёная, а гэтым разам забыўся. Быў усхваляваны і забыўся... І калі горка-салёная, з вясёлкавай плёнкай нафты, вада трапіла ў рот, мяне ледзьве не званітавала. Ад нечаканасці.

А яшчэ мора пахла... У кніжках пра мора пішуць, што яно пахне «водарасцямі і азонам». І падразумяваецца, што гэта... ну... цудоўны пах! Нібы парфума ці нешта такое...

Адзін мой знаёмы любіў пах кароўніка. «Дзяцінствам пахне...» — казаў і закочваў вочы... Так што каму як... Аднаму падабаецца свіная грудзінка, а іншаму — паэзія Быкава... Мне асабіста пах «азону і водарасцяў» не спадабаўся. І потым, як прывык, усё роўна не так, каб надта... Навучыўся не заўважаць...

...

...Сучасных маладых людзей паслухаеш: «Ненавіджу школу! Ненавіджу дзіцячы садок». І аргументацыя — маўляў, гэта першая казарма, пазбаўляе індывідуальнасці, ламае псіхіку... Сваіх дзяцей, тым не менш, у садок аддаюць... А куды дзенешся?..

Пра садок нічога не скажу, не меў у сваім жыцці. Меў пятнаццацігадовую няньку, якая, па сямейнай легендзе, загулялася і згубіла мяне ў траве... Забылася, дзе паклала. Шукалі ўсёй вёскай. А я спаў сабе...

...А школу я любіў. Мо таму, што дзяцінства прайшло на хутары. Вельмі хацелася гуляць з дзецьмі. Не хапала зносін з аднагодкамі. А малая сястрычка хутка надакучвала. І гульняў супольных з ёю амаль не было. Я любіў «у вайну», а яна «ў лялькі». Паўтаруся: школу любіў. І вучыцца любіў. І ў гэты год пасля школы зразумеў, як не хапае мне вучобы... І ў сэнсе ўдасканалення, і ў сэнсе зносінаў... І так захацелася працягнуць адукацыю, што знаходзіў час, вольны ад трэніровак і працы, і паўтараў, паўтараў... Паступаць прыехаў, адчуваючы, што ў школьнай праграме па матэматыцы і фізіцы «белых плямаў» не маю...

…Пяцёрку па вуснай матэматыцы атрымаў надзвычай лёгка… Выкладчыца з прыёмнай камісіі прабеглася вачыма па сваіх паперах, відаць, вока выхапіла маё беларускае прозвішча, і спытала: а хто гэта, маўляў, тут з Беларусі? А ці далёка жыву ад Ліды? — Натуральна, блізка! — Я адчуў шанец і не спудлаваў… Усё ж баксёр, рэакцыя… (Каб яна заўсёды так спрацоўвала…) Выкладчыца падышла і сцішаным голасам задала просценькае трыганаметрычнае ўраўненне. Я яго рашыў бліскавічна і вусна. А яна пацікавілася — ці насамрэч хачу паступіць, ці гэта ў мяне «турпаездка»? Імгненнае «хачу», і пяцёрка! Аказваецца, быць беларусам бывае выгадна!

…

Яшчэ адну выгаду з маёй беларускасці падказаў абітурыент-азербайджанец, сусед па ложку. Сказаў, што «нацыянальныя кадры» маюць права на іспыце па рускай пісаць пераказ (а я па яго вызначэнні быў менавіта «нацыянальным кадрам», бо скончыў беларускую школу). Я тут жа заявіў старшыне роты пра свае нацыянальныя правы…

Гэты азербайджанец, Фархад, хоць па-руску размаўляў з моцным акцэнтам і я спачатку з цяжкасцю яго разумеў, распавёў мне такія рэчы, пра якія я, з аднаго боку, быццам бы ведаў, а з іншага — мне такое і ў галаву не прыходзіла…

— Раней азербайджанцаў называлі «персамі», нават зараз старыя людзі так называюць, — паведаміў Фархад. — Вось у Горкага ёсць апавяданне «Знахарка»…

Я чытаў некалі гэтую «Знахарку», але чытаў і чытаў… І ніякіх высноваў не рабіў… А Фархад маю ўвагу звярнуў на такія словы адтуль: «…а родом он индей, такой народ есть за Каспийским морем. Там их много живёт; волосом синеваты и пьяницы. Персияне? Нет, это другой народ, эти нам подвластны, вроде бы пленные наши, как татара али — чуваша, мордва, а индей — вольный народ, люди самобытного царя».

Атрымоўваецца, што Горкі вуснамі свайго героя са «Знахаркі» выказаў стаўленне рускіх да нярускіх: «…нам подвластны… пленные наши, как татара, али — чуваша, мордва…»

…А палонным жа быць — сорамна!..

…Асабліва калі не імкнуцца вызваліцца…

…

Абітурыенты-расейцы адразу сталі клікаць мяне «бульбаш». У вочы. А азербайджанцаў — «чуркамі» і «гядашамі». Армянаў «хачыкамі». Толькі гэта за вочы. «Бульбаш» лічылася амаль прыстойнай мянушкай, а «чурка», «гядаш» і «хачык» — не. Толькі я зараз думаю, што сам вінаваты. Паблажліва занадта адносіўся. Каб пару разоў юху каму пусціў, то перасталі б у вочы… Але ж за бойку выгналі б… Гэта я зараз так думаю. Абавязкова выгналі б…

…

…Нядаўна гарэлку «Бульбаш» бачыў у краме. Берасцейскай, здаецца вытворчасці! Так балюча стала! Ну што мы за людзі? Самі сябе… Вось каб хто ў вочы азербайджанца «чуркай» абазваў — паглядзеў бы я… Альбо ў Расіі гарэлку «Кацап» выпускаць пачалі… Думаю, такое б паднялося! А ў нас можна… Ніхто нават не мукрнуў… Так што няма дзіва, калі мічман сказаў: «…нават бульбашы з нажамі…» — прывык да нашай бездапаможнасці, а тут — во… І здзівіўся…

Вось каб усе з нажамі, ды за абразу — двубой. Паасцярагліся б…

Самі вінаваты…

…

…У час падрыхтоўкі да іспытаў канчаткова ўпэўніўся ў беларускай нацыянальнай тоеснасці. Рыхтуем фізіку, сусед просіць падручнік, кідаю яму на ложак. Малюнкі на вокладках тады былі аднолькавыя на разнамоўных падручніках.

Ад Брэста да Курылаў! У нас «Фізіка», у РСФСР «Физика». Вокладкі і змест ідэнтычныя. Ілюстрацыі таксама.

Разгортвае той падручнік і раве: «Что ты мне дал?! Тут же ни черта не понятно!»

От я тады закайфаваў! Я ж быў упэўнены, што гэтак жа, як я лёгка разумею рускі тэкст, расіянін зразумее беларускі. Дзяўблі нам увесь час пра роднасць, пра адзіныя карэнні… Ды і зараз дзяўбуць, што мы з рускімі нібыта адзін народ… Здаецца, нават не разумеюць самазнявагі… Каб жа яны ведалі, да якой ступені я, да прыкладу, ці шматлікія мае сябры і знаёмыя — нярускія!..

…Фізіку таксама на пяцёрку здаў. Думаю — і тут беларускасць дапамагла. Дакладней — нярускасць.

Прымаў фізіку ці то азербайджанец, ці то армянін. Тады армян у Баку шмат жыло, цэлы жылы раён нават быў, «Арменікент». Я іх адрозніваць па тыпу твару і акцэнту не ўмеў яшчэ… Яны мне аднатыпнымі здаваліся…

Выцягваю білет, там пытанне па оптыцы. Малюю схему ўвогнутага люстэрка, промні, уяўнае адлюстраванне. А як па-руску гэта «уяўнае» — я не ведаю. Ерунда — думаю — сваімі словамі апішу. Так і зрабіў: «Это изображение — я не знаю, как будет по-русски, — ну… не настоящее, что ли… по-нашему “ўяўнае” — значит “в нашем представлении”…». Выкладчык ад задавальнення ажно рукі на грудзях склаў: «Мнимое… Вам пять баллов!» Упадабаў, што «инородец»?

…

Паступіў. Выдалі хламіды з сіняй парусіны, гэта аказалася рабочае адзенне, роба. Нагавіцы дзіўнай канструкцыі, сам правільна надзець не здолеў, паказалі. Каўнер блакітны з трыма белымі палоскамі па краі, гюйс. Хоць потым аказалася, што гюйс — гэта зусім іншае, а каўнер гюйсом клічуць так… Дагэтуль не ведаю чаму… Бо правільна ён называецца «форменны каўнер». Ну хто будзе так доўга вымаўляць: «Форменны каўнер»! Гюйс — каратка і зразумела. Бесказыркі — «бескі», чаравікі — «гады», шкарпэткі — «карасі». Слоўцы новыя хутка прыжываліся. Яны нас ставілі ў нейкае такое становішча… Асабняком… Выдзялялі ў касту. І нам гэта вельмі падабалася.

Нас, апранутых у новыя робы, у бескі без стужак (стужкі былі нам пакуль «не положены») пашыхтавалі на страявым пляцы, выйшаў начальнік факультэта і грамавым голасам пракрычаў: «Здравствуйте! Товарищи! Курсанты!» — Адказалі хто як. Хто «здрасця», хто яшчэ неяк… Пачаў загад аб залічэнні чытаць. Я слухаю, цешуся, хоць радасць мая трывожная нейкая. Раптам чую ззаду: шмяк! Азірнуўся — ляжыць на асфальце адзін з нашых. Твар белы, вочы закочаныя… Нешта мне так нядобра стала… Паднялі ўчатырох, у санчасць панеслі. Потым такія выпадкі даволі часта здараліся. Асабліва на парадах. На трох парадах бакінскіх удзельнічаў, і тры гады ў роце ганаровай варты, нештатнай… Нагледзеўся… Лічу — ад «пачуцця моманту» млелі.

Увечары бацькам ліст напісаў. Каб не чакалі да наступнага года…

…

Першыя тры курсы ўвесь час хацелася дадому, спаць і есці…

На чацвёртым хацелася хутчэй атрымаць лейтэнанцкія пагоны…

На пятым — каб час затармазіўся. Заканчэнне вучэльні бачылася ўперадзе нейкім шэрым пустым правалам. Зноў, як пры паступленні, было трывожна.

…

Першая курсанцкая раніца пачалася сіпатым сігналам горна. Спачатку хрыпіць дынамік на лесвічнай пляцоўцы, дзе днявальны. Потым горн: «Та-а! Та-ці-та-та-та…!» Днявальны раве: «Рота! Пад’ём!» Пазней, як мы крыху абцёрліся, за крык

можна было і чаравікам атрымаць… Попускам… Такі лямант стаў лічыцца непрыстойным. Салдацкім. Днявальны павінен быў пасля горна спакойна сказаць: «Камандзе ўставаць».

…Самая вялікая абраза — слова «бот». Яно вымаўляецца так: «С-с-сап-п-пог!». Пры вымаўленні трэба зрабіць грэблівую грымасу. Таксама абразлівыя «портянка» і «салдат».

Пасля першага курса нас завезлі ў Севастопаль і там месяц пратрымалі на артылерыйскім крэйсеры «Адмірал Ушакоў». Потым перакінулі на два тыдні ў Камышовую бухту, у марскую пяхоту. А ў нас пасля крэйсера задніцы па ватэрлінію ракушкамі абраслыя… І нехта з курсантаў вякнуў з шыхта на старлея-марпеха, што праводзіў з намі заняткі: «Сапог!». Старлей парыраваў: «Бот заўсёды вышэй за чаравік»… Шыхт завыў, выражаючы непавагу… Старлей супакоіў нас кросам па крымскіх камянях… Усяго кіламетраў пяць. Нам хапіла… Больш зачапляцца з марпехамі ніхто не рызыкаваў…

…На другі дзень нашага курсанцтва — аўтобусы, і мы ў казармах Каспійскай флатыліі. Ложкі ажно пад столь, трохпавярховыя… «Каранцін». Ён жа «курс маладога матроса». Жнівень, а Баку ў зоне паўпустыні, і стаіць страшэнная спёка. Робы пакрываюцца соллю. Гэта наш пот. А праз тыдзень эпідэмія дызентэрыі…

У шпіталі цікава… Там такія ж, як і мы, «дрыстуны» — курсанты-замежнікі. Там я ўпершыню ўбачыў жывога негра. «Курсант Мара» — працягнуў негр руку для знаёмства, і я са страшэнным здзіўленнем убачыў, што далонь у яго белая! Як у мяне! Сам чорны, а далонь белая… Чамусьці гэта выклікала ў мяне нейкі камяк у страўніку… Дагэтуль не ведаю чаму. Можа, рэўнасць якая? Хай бы быў — раз чорны — чорны ўвесь… Мара прыехаў вучыцца з Самалі… Думаю зараз, што сучасныя самалійскія піраты, пра якіх не-не ды і ўзгадаюць па тэлевізіі, — мажліва, былыя нашы курсанты. На лодкахнадуванках захапіць танкер ці сухагруз — гэта трэба мець падрыхтоўку… У нас няблага вучылі…



Яшчэ ў шпіталі в’етнамцы. У іх вайна, і яны пантамімай «распавядаюць» аб бамбёжках, загінулых сямейніках, і мы іх паважаем… Яны… Моцныя… Маленькія, але моцныя… На іх напалі… Хочуць захапіць у палон… У рабства… А яны супраціўляюцца… З нашай, натуральна, дапамогай, але супраціўляюцца. Паважаем…

…Праз шмат гадоў я пазнаёміўся з кхмерам … Ну, ужо не зусім кхмерам, а… Калі правесці аналогію са словам «афраамерыканец», гэтага можна назваць «кхмера-беларусам». Вучыўся ў нас, у родную Камбоджу вяртацца не захацеў (а можа, каханне не пусціла?), ажаніўся з беларускай, від на жыхарства, грамадзянства… Дык гэты в’етнамцаў ненавідзіць. Дагэтуль. Я не стаў разбірацца — за што. Сваіх балючак хапае…

Інфекцыйнае аддзяленне… Есці хочацца. Увесь час. У сталоўцы сталы пачалі накрываць, спачатку хлеб расклалі па сталах. Я ўзяў адзін кавалачак, жую. Смачна… Хлопец нейкі ў шпітальнай піжаме, шпэндрык, метр у скачку: «Гэй, ты! Салабон! Пакладзі хлеб!» А што — пакладзі, я ўжо амаль зжаваў… Паглядзеў я на яго, павярнуўся моўчкі і далей па калідоры… Ён дагнаў — і пендаля… Памылку зрабіў. Я да таго часу цвёрдыя разуменні набыў аб гонары і годнасці. Пендаль уваходзіў у пералік абразаў. Ды і баксёр жа, рукі ўжо хуткія былі… Стукнуў яго адзін раз, заваліўся хлапчыска…

Ой, што пачалося! Загадчыца аддзялення, маёрка-доктар, картавая: «Засгграниц! Адлічу з вучэльні! У мяне ў аддзяленні ніколі боек не было!» А я думаю моўчкі: «Як гэта ты адлічыш? Ты ж да вучэльні ніякага дачынення не маеш…» Дурны быў, не разумеў. Запраста магла паспрыяць. Добра, што ў спрэчку не кінуўся… Галоўнае — не я ж пачаў! Але на гэта ніхто не зважаў, пацярпеў жа той…

Пацярпелы аказаўся «гадком». Я пра тую «гадкаўшчыну», флоцкі аналаг «дзедаўшчыны», як кажуць, ні вухам, ні рылам… Не чуў ніколі. І падкочвае да мяне матрос з флатыліі, там у аддзяленні ўсе былі — і курсанты, нашы і замежныя, і матросы, і афіцэры. Падкочвае, земляком аказаўся,

з Віцебшчыны. І мне — маўляў, ты што нарабіў? Ты гадка́ ўдарыў! І жах непадробны ў вачах… Што за гадок? Доўга мне тлумачыў… Пра «карасёў», «падгадкоў», «гадкоў»… «Ну, ты зразумеў? Гадка́ нельга чапаць, ён службу ведае!..» — «Як нельга, ён жа мне пендаля?..» Плюнуў зямляк і пайшоў. І ніякай зямляцкай падтрымкі… Але ўсё роўна пасля таго выпадку мяне неяк бокам абыходзіць пачалі…

…

…Сваім будучым абаронцам дзяржава давала грошай… Першакурснікам — тры рублі восемдзесят капеек штомесяц. Іх хапала на тры паходы ў «Акіян» — курсанцкую кавярню. Бралі грамаў трыста кілбасы з часночным пахам — «сабачай радасці», грамаў сто шэрбету — усходняй слодычы, бляшанку «згушчонкі», бутэльку «Бадамлы» — мярзотнай на смак мінералкі, хлеба-«чорэку»… І ўжо на вячэру не ішлі… У страўніку было цяжка…

…

Часам мама закладвала ў канверт чырвонец. Для ўзгадаваных пасля СССР тлумачу: «чырвонцам» клікалі дзесяцірублёўку. За чырвоны колер. Потым, у наступным лісце, пыталася — ці дайшоў? Не памятаю, каб прапалі… Ніколі нават у галаву не прыходзіла патрабаваць у бацькоў грошы. Прышлюць — дзякуй. Не — то і так добра… Усе грошы, мае прынамсі, ішлі ў «Акіян».

…У сярэдзіне васьмідзясятых на Паўночным флоце ўзляцеў у паветра флоцкі арсенал, што быў размешчаны ля губы Акольная, недалёка ад Северамóрска. Я назіраў гэтае відовішча на ўласныя вочы з чатырнаццаці кіламетраў. Было падобна на ядзерны «грыб». Пастаяў з афіцэрамі, пажартаваў наконт вайны і пайшоў «у сям'ю»… Праўда, праз гадзіну выклікалі па трывозе… Праз нейкі час пайшла па флоце байка, што нібыта гэбэшнікі ліст матроса перахапілі. Матрос да таго выбуху ніякага дачынення. Але бацькам напісаў, што гэта з-за яго, што, каб у турму не сесці, трэба пракурору хабар даць. І колькі там тысячаў ці нават дзясяткаў тысяч з бацькоў спрабаваў такім чынам выцыганіць…

(…Перачытаў папярэднія два абзацы, і згадалася біблейская гісторыя. Пра мытніка і фарысея. Але хай… Які ёсць…)

…

Неяк запрасіў у «Акіян» аднагрупнік. (Гэта ўжо іншае, не пра выбух.) Я з уздыхам паведаміў, што мае фінансы ўжо даўно «спелі рамансы», але калі ён гатовы мяне крэдытаваць да чарговага «заробку», то я з удзячнасцю… «Я запрашаю — я плачу! — сказаў каўказскі мужчына Валера Ванян. — Не крыўдзі!» Ментальнасць… І я тады на халяву ад пуза наеўся… Нават не памятаю зараз, ці запрасіў Валерку наўзаем…

…

«Сістэма» — называлі мы вучэльню са схаванай пяшчотай. Ганарыліся, што далучаны да касты… Фарсілі паўсюль словамі «палуба», «по́двалак», «прераборка», «кнехт», «гюйс», «комінгс», «пілерс», «трап» … Карыстацца словамі «цывільнымі», калі існавалі «ваенна-марскія» аналагі, лічылася непрыстойным.

«Сістэма» — з непрыхаванай пяшчотай называем мы сваю вучэльню сёння…

Але што цікава: Сістэма наша зараз рыхтуе кадры для войска Азербайджана, і гэта чамусьці выклікае страшэнную непрыязь з боку былых курсантаў-расіян. А я нічога такога не адчуваю… Толькі пяшчоту да гэтых сценаў, дзе прайшлі цяжкія, але такія цікавыя пяць гадоў жыцця… Яны мне сняцца часам…

…

У горад ад вучэльні два аўтобусы хадзілі. Сто сорак другі і пяцьдзясят першы… Мне чамусьці важна гэта памятаць… Глупства. Але мне важна… Неяк ехаў пяцьдзясят першым да дзяўчыны — яна сёння ўжо трыццаць пяць гадоў як мая жонка, — і скандал нейкі ўспыхнуў. Не памятаю, з чаго пачалося… Стары азербайджанец крычаў нам, курсантам: «Азэрбіджян нэт совецкі власт, азэрбіджян ест совецкі денга!» З аўтобуса мы выскачылі прыгаломшаныя…

…

Прыехаў на сустрэчу экіпажа падводнага крэйсера, на якім служыў лейтэнантам… Ну, «экіпажа» сказана занадта, пятнаццаць афіцэраў сабралася. Хто не здолеў, хто не захацеў, каго не знайшлі, а каго і няма ўжо… І «жалеза» нашае парэзанае… Пазнаванне, абдымкі-пацалункі, крыкі. Усе — каму пад-, каму ўжо шэсцьдзясят, а камандзіру з зампалітам дык і за семдзесят — адразу ў тых лейтэнантаў-старлеяў-каплеяў ператварыліся… Апрача кэпа з замам, тыя марку трымаюць…

Выпілі ў памяць, хто ўжо на нябеснай лодцы… Загаманілі. Віцька-эртээсавец, ён зараз мастак, усім сваю работу падараваў, афорт. Я таксама не з пустымі рукамі. Выцягнуў некалькі асобнікаў кніжачкі сваёй. «Прыміце ў якасці сувеніра, бо прачытаць не здолееце — па-беларуску пішу…» А ў Пашкі-ракетчыка пытаюся: «Ты яшчэ родную ўкраінскую не забыўся? То ты здолееш прачытаць…» І тут сумеўся Пашка. Неяк так сумеўся, што я зразумеў адразу — не тое ляпнуў. Відаць, у сучаснай Расеі ўкраінцам не зусім прыстойна быць… Ды яшчэ мову ведаць! І згадаліся недзе прачытаныя ў Сеціве словы былога нашага, а зараз маскоўскага журналіста, «асабістага ворага самі-ведаеце-каго». Што, маўляў, тлумачыць ён сыну — твае мама, тата, бабулі, дзядулі ўсе чыста — беларусы. Значыць, і ты, сынку, беларус. А ён — не! Мама-тата-бабулі-дзядулі хай сабе і беларусы, а я — рускі! Палонны хлапчук маскіруецца пад вертухая… Бо сорамна… Ці нявыгадна?..

…На той сустрэчы экіпажа здарылася ў мяне асабістая бітва за незалежнасць Сінявокай. Сашка-трумны: «Хутка твая Беларусія нашай будзе!» А я яму — хвігу пад нос. «Пасля сутыкнення бакі разышліся для перарэкагнасцыроўкі»… Не ведаю, хто перамог, хочацца лічыць, што я…

…

«…Гаворыць і паказвае Масква!.. Таварышы! Увага! Вы будзеце смяяцца, але ў нас зноў памёр член Палітбюро…» — чорны анекдот пачатку васьмідзясятых

…Прачнуўся ад жалобнай музыкі з калідора ў самым вялікім гатэлі Якуцка, «Лена»…

(Здаецца, у кожным горадзе, калі ён на рацэ, ёсць гатэль з назвай ракі. У Пінску — «Прыпяць», напрыклад. Быццам бы клопат аб тапаніміцы. А іншыя назвы знікаюць. Станцыю метро ў Мінску спачатку «Ракаўскай» хацелі назваць, ды спалохаліся «канцэрагену»… І стала яна безаблічнай «Спартыўнай». А там непадалёку вёсачка была, Цівалі. Лепей бы станцыю ў гонар яе, горадам паглынутай…)

…Прачнуўся, высунуў галаву з-пад коўдры. Да самалёта два дні, дык я ў гэтай «Лене» адсыпаюся. На вуліцы мінус сорак два, лічыцца цёпла, бо я толькі што з-пад Верхаянска, там мінус шэсцьдзясят тры. Адпачынак праводжу… Сястру адведваў…

…Жалобны марш з калідора, я галаву з-пад коўдры, хворую… Добра пагасціў… Двое якутаў мяне разглядаюць, нумар шматмесны, паўтара дзясятка ложкаў. Маўляў — а што гэта за «нюча» тут разлеглася. Для іх хто не якут, той «нюча», рускі. Пытаюся, хто памёр на гэты раз. — Міністр абароны. — Ой-ё! Начальства! — А ты — ваенны? — Так… — Давай за яго душу…

…І ўжо лаўка ля ложка, дзве пляшкі і струганіна з сахацiны…

…Якуты на з'езд аленяводаў прыехалі. Старэйшы, Ірык, ветэрынар, другі, Федзя, пастух. Дзіўна мне было — мангалоід Федзя… Як даведаліся, што не «нюча» я, а беларус — адкрыліся. Усё крыўды свае распавядалі на «вялікага брата». Шмат крыўдаў. Палонныя… На нас падобныя. І з мовай тое ж… Толькі яны палоннае сваё становішча ўсведамляюць.

Ірык напіўся, стаў плакаць і ўзгадваць якута-снайпера, Героя Савецкага Саюза. «Вавёрку ў вока страляў»… А Федзя зайздросціць маім памерам: «Добра табе, ты такі вялікі… Але я затое вельмі спрытны! Давай пабарукаемся!» А я не такі, каб ужо… Проста Федзя зусім маленькі. Якуты ўвогуле маларослыя.

…

…У Ерэван прыляцеў. Камандзіроўка па крымінальнай справе. Сваякоў матросіка-армяніна дапытаць і пратаколы ў ваенную пракуратуру… Па моладасці няштатным ваенным дазнаўцам прызначылі… А мне што — хоць колькі дзён ад абрыдлага падводнага «бітона» адпачыць… Ваенпракурор, інструктаж, пасведчанне пракуратуры «Просім… садзейнічаць… у правядзенні следчых дзеянняў…», праязныя дакументы — і ўперад!

Нязвыклая архітэктура, дамы з ружовага вапняку, незнаёмая мова і па вуліцах флоцкі старлей дэфіліруе… Гэта я, аддзяленне міліцыі шукаю. Позркі зацікаўленыя лаўлю… Не без задавальнення… Двое п'яненькіх армянаў на процілеглым ходніку. Апрануты фацэтна. Заўважылі — і праз вуліцу да мяне напрасткі, што танкі. Відаць, зараз будуць у каханні да ваенна-марскога флоту прызнавацца, вядомая справа… Альбо распавядаць, як самі ў ВМФ служылі… Усмешку прыязную на твары зрабіў…

Ага!.. Каханне! «А добра вам японцы ў 905-м наклалі!» — Чую, як усмешка на твары камянее, робіцца дурнаватай, і сагнаць не магу… І адказаць — анічога прыстойнага ў галаву не ідзе…



…Я ж для іх — як сімвал усяго расійскага флоту… Вертухай… Вось і атрымаў. За палон… Яны мяне перамаглі…

А ў міліцыі ўчастковы доўга скардзіцца, што на вуліцах Ерэвана немагчыма нікога затрымаць — адбіваюць! Незнаёмыя людзі кідаюцца на абарону незнаёмага і перамагаюць!

Савецкі мент для іх таксама сімвал палону. Хай сабе і армянін…

У іх няма беспрытульных дзяцей…

…А з аэрапорта «Зватноц» у добрае надвор'е відаць вяршыні Арарата — Сыс і Масыс…

…Мушкецёр д'Артаньян — армянін. У гэтым пераконвае мяне выпадковы суразмоўца. Я зайздрошчу… Каб жа так горача адстойвалі нашы… Каліноўскага, Касцюшку, Пржавальскага, «Полацкі сшытак» і процьму іншага!..

Ерэванцы спадабаліся… У іх — адчуванне еднасці… І паўсюль пошукі сваіх…

…

…Сябра дзяцінства ў авіяцыйнай акадэміі вучыцца. Не бачыліся гадоў восем. Адбіў тэлеграму, што праездам буду, з перасадкай. Сустрэў. Прыгожы, у лётнай форме. Я таксама нічога сабе. Сядзім у рэстаране. Капітан і каплей, лётчык і падводнік. З усіх кутоў дзяўчаты зіркаюць.

Што цікава, паспрабавалі гутарыць па-руску, папрывыкалі за гады ў вучэльнях і войску, а тут няёмкасць нейкую адчулі. Нейкую быццам здраду, ці што… Фальшывасць… І перайшлі — як у дзяцінстве — на беларускую.

Афіцыянт падыходзіць — а ці можна, маўляў, за ваш столік яшчэ кліентаў? — Дык калі ласка, нам усё роўна! А ў зале вольных столікаў — колькі хочаш… Але гэта я пазней ужо заўважыў.

Сядаюць дзве прыгажуні, замовілі нешта там… Ды мы на іх аніякай увагі — не бачыліся ж колькі. У сябрука майго Афган за плячыма, у мяне чатыры аўтаномкі… Ды і ўспамінаў

жа дзяцінства колькі… Працягваем балбатаць. І тут адна з дзевак — ды такім тонам загадным: «Говорите по-русски!» Нават руская прастытутка лічыць магчымым загадаць афіцэрам-«инородцам», каб на яе мове гутарылі! Бля!..

…

…Сядзім у малюсенькай карабельнай парылцы з земляком-кобрынцам. Два кайфы атрымоўваем — парымся і ў беларускай практыкуемся, каб не забыцца. Зампаліт зайшоў, сеў на ніжнюю паліцу. Пацее. Вушы натапырыў, спрабуе разабраць. Твар ад нянавісці перакрывіла, перабіў, Маякоўскага цытуе: «Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин…» Пайшоў… Хай ідзе… Мы перамаглі!

…

Цікава свет пабудаваны… Ніколі людзі да канца яго законы не спазнаюць… Вось «Яблык ад яблыні…» — правільная, здаецца, прымаўка…

…Служыць у вайсковай часці мічман. Васіль. Прозвішча мае такое, што ні за кога прыняць нельга, беларус у сто нейкім калене. І часць ягоная ў Беларусі, і Васіль ніколі ў жыцці далей Мінска носа не паказваў. Але ж вырашыў скарыстацца магчымасцю — тады дзеці ваенных маглі вызваляцца ад вывучэння беларускай мовы. Па жаданні бацькоў. І Васіль свайго нашчадка вызваліў. Аблегчыў жыццё… А нашчадак вырас і стаў старшынёй гарадской арганізацыі ТБМ… Не ацаніў бацькавых клопатаў.

…Сын беларускі і энкавэдзіста-расіяніна… Энкавэдзіст быў прысланы, каб у канцы саракавых беларускіх нацыяналістаў знішчаць… Ніякіх канфліктаў ніколі з бацькам не меў… Ну, гэта я да таго, што не было нянавісці да бацькі. Наадварот, паважаў і любіў. Але ўрэшце стаў беларускім нацыяналістам. І старшынёй гарадскіх франтаўцаў… Зянонавым сябрам. Здаецца, не было адкуль там беларускасці брацца, але ж прарасла…

…Праўда, ёсць і адваротны выпадак… На жаль… Ён не дае мне пачувацца на Радзіме зусім камфортна…

…

З тае хвіліны, як з мінскага вакзала ў свет ад'ехаў, дадому імкнуўся… З'ехаць у свет лягчэй аказалася, чым вярнуцца. Флоцкіх частак у Беларусі ўсяго дзве было. Шляхам шматхадовай камбінацыі з дапамогай уплывовых сяброў вярнуўсяткі. Дадому. З той далечыні, дзе дагэтуль швэндаўся, уся Беларусь домам была…

У часці, куды трапіў, беларусаў шмат. Апрача «топначальства», тыя ўсе чыста «ліца славянской национальности» — рускія. Я гэтак іх назваў таму, што як дзе пачую заклікі славянам яднацца, то ўрэшце аказваецца, што яднанне славянаў падразумявае ператварэнне беларусаў і ўкраінцаў у «паўнацэнных»… Можа, нават «са знакам якасці» — гэта калі сваё роднае будуць актыўна зневажаць…

…Там у межах вайсковай часткі крама была. Нейкі крыху аналаг «спецзабеспячэння». Часам можна было там тое-сёе з ежы набыць… Перабудова ўжо набрала сілу, і… Ну, усе ведаюць…

Стаіць у краме чарга абаронцаў Радзімы, кілбасу купляе. Начальнік прыклыпаў, таксама ў чаргу стаў. Дэманстраваў часам дэмакратызм. Чарга прыціхла, змоўклі гутаркі. А начальнік ні з таго ні з сяго, заікаючыся — заікам быў: «А-а-а, б-беларусы! А-а-а, б-брудны народ!» — «Чаго ж Вы, — пытаюся, — тут засталіся? Збеглі, можна сказаць са сваёй Расіі?»

«А-а-а, м-мы вам к-культуру нясем…» — адказвае.

…Там, у чарзе, можа, тры чвэрці беларусаў было. Усе як быццам языкі кудысьці засунулі… Толькі прадаўшчыца, я ёй дагэтуль удзячны: «Беларусы — брудны народ? Вы

гэта, відаць, па сваёй жонцы вызначылі...» Ён з тутэйшай жанаты быў... Крэкнуў начальнік, змоўк. Пастаяў крыху пад насмешлівымі позіркамі і бокам-бокам прэч... Мы перамаглі... Хоць «мы» — адна прадаўшчыца...

...

...Вярнуўся дадому, а ён зусім не такі, як мроілася здалёк — з поўдня і з поўначы. Мярзота запусцення... Чым далей, тым больш... Вось яно як... Трэба за вялікую прыборку прымацца... Драіць, начышчаць... Павучынне змесці, павукоў... Так...

## Змытая клятва

— Мне нельга, я — дзіця алкаголіка... — бясколерным голасам кажа Каця і прысмоктваецца да бутэлькі з півам.

Праз прыплюшчаныя вейкі мне відаць белыя пясчынкі, прыліплыя да Кацінай скуры, ружовыя смочкі і рыжы газончык унізе жывата. Тут зацішна, на малюсенькай пясчанай паляне сярод густых ракітаў ля ўрэзу вады. Рака ціха пазвоньвае. Нейкія птушкі ціўкаюць сярод лістоты. Пахне сонцам. Хораша. Са школьных гадоў гэта наш таемны «пляж». Я падставіла чэрвеньскаму небу спіну і ўпотай назіраю. Каця распранутая дагала, і таму я не магу разглядаць яе адкрыта. Даўней, школьніцай — магла, а зараз чамусьці мне сорамна. Хоць гэта, відаць, нядобра — падглядаць таемна.

Кацьку я не бачыла гадоў сем... Ці восем? З'язджала на вучобу, а як скончыла журфак і вярнулася, у горадзе не застала. Калі шчыра, дык і не шукала. Чула, што яна нарэшце, з трэцяй спробы паступіла ў «іняз». А ўчора раптам патэлефанавала ў рэдакцыю і прапанавала сустрэцца. І не абы-дзе, а на «нашым месцы». Я ўжо амаль забылася пра яго...



— Ведаеш што, дзіця алкаголіка, калі баішся пайсці па бацькавых слядах, то не смакчы піва. А то смешна: «Мне нельга» — і адразу за бутэльку!.

— Уф-ф! Кайф! — адрываецца нарэшце Каця ад рыльца. — Не магу я адмаўляць сабе ў маленькіх прыемнасцях. Шчасце — яно якраз і складаецца з гэтых невялічкіх радасцяў... Іначай — дзеля чаго жыць? — садзіцца і, калыхнуўшы грудзямі, шпурляе бутэльку ў раку.

— Не махай так рукамі, цыцкі адарвуцца! — смяюся я. — Ты, Каця, непаслядоўная. То табе з тваімі генамі нельга алкаголь ужываць — і адразу за піва, то месца табе засмечанае — а сама бутэлькі раскідваеш!

— Што — зайздросна? Капусту еш, можа, пухірыкі свае крыху адросціш, — парыруе Каця. — О, казлы нейкія плывуць. — Прыкрываецца крыху майкай і з абыякавасцю пераносіць галёканне хлопцаў з праплываючай лодкі.

...Кацінага бацьку хавалі ўсім дваром — мы жылі тады ў старым двухпавярховым доме з аблупленай тынкоўкай, скрыпучымі падлогамі і квадратным «італьянскім» дворыкам. Дзверы ў Кацінай кватэры з раніцы былі адчыненыя, і да іх увесь час заходзілі і выходзілі людзі з сур'ёзнымі тварамі. Некаторыя хрысціліся.

— Вось і няма Васі, — са скрухай сказаў Міхась, сусед. — Не будзе больш выступаць. Хай бы выступаў. Каму ён замінаў? Хай бы выступаў... Неблагі быў чалавек, дарма што выпіваў.

Вася, калі напіваўся, станавіўся пасярод двара і выкрыкваў нязвязаныя словы. Чыста Гітлер са старых хронік, што паказваюць перад Дзявятым траўня па тэлебачанні. «Зноў Вася выступае». — моршчыліся суседкі. Каця з Машай, малодшай сястрой, бралі яго за рукі і вялі ў кватэру. У Каці пры гэтым твар быў абыякава-адчужаны, а ў Машкі — шкадуючы. Калі здаралася, што дачок не было дома, то п'янога Васю заганяла грубымі штуршкамі жонка, мажная ўладарная кабета. Неўзабаве пасля пахавання папаўзлі чуткі, што гэта яна атруціла Васю грыбным супам з паганкай. Лухта, хутчэй за ўсё.

Мы былі аднакласніцамі, лічыліся сяброўкамі, але ў двары яна трымала мяне «на дыстанцыі». Звычайна збірала кампанію малых — і верхаводзіла там. У класе, сярод аднагодкаў трымалася ціхмяна і незаўважна. Упарта зубрыла англійскую мову. Марыла стаць перакладчыцай. Часам, калі хацела ўкалоць, фальшыва-салодкім голасам называла мяне «мядзведзіцай» — перакладала імя Аршуля. Тады я клікала яе «гвардзейскім мінамётам».

— Памятаеш, мядзведзік, як мы тут клятву аб дружбе складалі? Ото дурныя былі! — кажа Каця. — Добра, што хоць не крывёй падпісвалі… А то былі б, як якія-небудзь хлапчукі… Дзе мы тую бутэльку закапалі?

— Пад віхлой… Недзе вось тут. Па-мойму, гэты пень ад яе. Чаму ты лічыш, што дурныя былі? Нармальныя дзяўчаткі, адпаведна ўзросту.

…Неяк бабіным летам — ну, так, пасля пахавання прайшло месяцы паўтара— мы ўцяклі з апошняга ўрока, з фізкультуры, і прыйшлі сюды. Утраіх — Каця, я і Броня. Тады, здаецца, Каця ўпершыню прапанавала загараць галяком. Пераконвала, што ў «цывілізаваных краінах» усе загараюць выключна голымі. І ўсе разам — і мужчыны, і жанчыны. Я не рашылася, а Каця з Броняй распрануліся і ляжалі на сукенках, каб не запэцкацца ў пясок. Сонца яшчэ прыпякала, а вада ў рацэ ўжо астыла, і абмывацца ў ёй было страшнавата. Я ўсё хвалявалася, што наш прагул адкрыецца і будуць непрыемнасці. «Чаго ты баішся, дурная, — супакойвала мяне Броня, калі што — «госці прыйшлі», жывот балеў». — «Не атрымаецца, — раптам сказала Каця, — фізрук на ўсіх дзяўчат графікі месячных вядзе. Каб не падманвалі, або яшчэ для чаго-небудзь. Сама бачыла. Ён неяк нататнік свой у спартовай зале забыўся, там спісы дзяўчат з кожнага класа, і крыжыкі. Я пару дзён да гэтага адпрасілася, насамрэч менстры прыйшлі, а тут бачу, якраз на гэтую дату — крыжык. Праверыла далей — супадае! Каз-зёл стары! Заўважалі, як ён на гімнастычных снарадах дзяўчат страхуе? Так і імкнецца за цыцкі або за дупу злавіць! Кажуць — ён з Марысяй Мацукевіч з дзясятага бэ спіць. Марыська, курва, з гэтым пнём лысым! Гэта ж непрыстойна!»

Не ведаю, ці праўда тое было — пра Марысю, першую школьную прыгажуню, шмат чуткаў хадзіла. Нават сама неяк чула — Марыся ў атачэнні сяброўак-дзесяцікласніц казала: «Я, дзяўчаты, створана для кахання…» І выгляд у яе быў такі, што я адчула сябе зусім маленькай, хоць між намі ўсяго год.

«Кацька… — азірнуўшыся па баках, басам зашаптала Броня, — а ты ўжо… ну, гэта… ты ўжо мела сэкс?»

«Сто разоў… — І зрабіла твар, як тады Марыся. — Спадзяюся, вы не будзеце разносіць плёткі?» (Якія там плёткі, калі праўда?). «Не-не! — спалохалася Броня. — Ты што?! Мы — магіла! Праўда, Аршуля?»

А я, памятаю, спыталася тады Кацю, чаму Марысі блудзіць — непрыстойна, а ёй — прыстойна, і што яна будзе казаць мужу пасля шлюбнай ночы, калі ён даведаецца, што не першы. І Кацька паспрабавала з мяне насмяяцца. Казала, што зараз такі час — ніхто не абавязаны берагаць цноту. Што большасць пар спачатку сыходзяцца, жывуць проста так, «грамадзянскім шлюбам», а пячатка ў пашпарце, тым больш вянчанне, — гэта аджылы звычай. А Марыся «сэксуе» са старым, гэта зусім не тое, што яна — з аднагодкамі ці нават з маладзейшымі. Мы з Броняй маўчалі, агаломшаныя Кацьчыным нязвыклым напорам. А потым Броня сказала, што яе брат (дзевятнаццацігадовы, быў для Броні вялікім аўтарытэтам) лічыць ганебным ажаніцца з «прадзіраўленай». Нават калі «прадзіравіць» ён сам. Нявеста, па ягоным перакананні, павінна захоўваць дзявоцтва да вяселля. Кацька пакрылася чырвонымі плямамі і назвала Казіка адсталым дзікуном.

Мы тады з ёю ледзьве не пасварыліся. А потым яна супакоілася, ці зрабіла выгляд. І зноў стала па-ранейшаму халодная і прытармажаная. А напрыканцы прапанавала скласці клятву дружбы і захоўвання таямніцаў. І на выдраным са сшытка аркушы мы пакляліся і распісаліся. Паклалі

аркуш у шкляную бутэльку, што валялася побач, шчыльна заткнулі сучком і закапалі пад каранямі віхлы.

— Распавядзі, як жывеш, — просіць Каця манатонным, абыякава-ласкавым голасам. — Замуж, я чула, не выйшла. Найшла якога дэфларатара ці ўсё яшчэ беражэш гімен для белага каня з рыцарам?

Не можа, каб не кальнуць. Дарэмна я, відаць, згадзілася на гэтую сустрэчу. І ўсё ж варушыцца нешта знутры, што не дазваляе мне папросту нахаміць і сысці. Можа, памяць пра дзяцінства, праведзенае разам у «італьянскім дворыку», якога ўжо няма, ці тая клятва ў бутэльцы, закапаная побач?

— Не знайшоўся яшчэ годны, — з неахвотай адказваю я. — Як жыву? Добра жыву. Цікава. Газетка нашая не «Народная Воля», але займаюся ўлюбёнай справай, аб якой марыла. Не лгу, пішу ў адпаведнасці са сваімі перакананнямі, праўду. Што яшчэ трэба для чалавека? А замуж? Не пакахала пакуль…

— Каму яна патрэбна, гэтая праўда! Уладам? Людзям? Ва ўладзе таксама людзі, і кожны дбае пра сябе. Закон прыроды! Кахання шукаеш? Кожны кахае толькі сябе, гэта таксама закон прыроды. І кожны спрабуе выкарыстаць кожнага дзеля сваёй выгады.

Ой, не падабаецца мне гэтая гутарка! Раздражняе. Не тое, каб я зусім не згодная з Кацькінай філасофіяй, дзе-нідзе яна мае рацыю, ды толькі нельга прымяраць яе да ўсіх выключна. І ў спрэчку ўвязвацца не хочацца, бессэнсоўна.

— Калі пакахаю, то хай каханы выкарыстоўвае мяне. Я згодна. А ты, чым на чалавецтва накідвацца, лепш пра сябе распавядзі. А то як наш двор раз'ехаўся, ніякіх звестак не чутно стала. А харошы дворык быў!.. Усе як адна сям'я.

— Хутчэй інтэрнат для ўбогіх!

— Казаў нехта — даўнавата ўжо — ты замуж хадзіла ці то з арабам, ці то з індусам. Збрахалі?

— Хацела… З туркам, — змрачнее Каця. — Бізнэс свой меў. Кватэру здымаў для мяне. На вакацыях на Кіпр адпачываць вазіў. Стажыроўку ў Лондане прафундаваў. А як паведаміла, што цяжарная, — куды толькі знік! Нават грошай на аборт не даў! П-падла! А тут ужо канец вучобы. І размеркавалі мяне, ты ўяўляеш — мяне, з веданнем чатырох моваў, якую нават англічане не адразу распазнавалі, што замежніца, — у калгас, у сельскую школу, дзецям свінаводаў, алігафрэнам гэтым, англійскую выкладаць!

Змоўкла, злосна сапучы. Яна ўвогуле заўсёды была скрытая, лішняга не скажа. Дзіўна, што пра турка прызналася. І пра аборт. Відаць, накапіла кепскіх пачуццяў, хочацца выславіцца.

— Ты ж у нашым двары заўсёды кампанію малых вадзіла. Я думала — во як дзеўка дзяцей любіць! Настаўніца прыроджаная расце. А ты дзіцё забіла. — Правакую, бо можа зацяцца і змоўкнуць. Хай распавядзе сваю гісторыю, мажліва, матэрыял для газеты атрымаецца. А ўвогуле — чаго яна мяне сюды зацягнула? Пакуль што пра мэту сваю — ні слоўца!

— Якое дзіцё забіла? — няўцямна лыпае вачыма Каця. — А-а! Ты пра аборт? А што — лепей было байструка на свет пусціць? Ды чорнага? І куды б я з ім? Гэта ж крыж на ўласным жыцці!

— А я лічу — лепей ужо байструка нарадзіць, чым забіць. — Я насамрэч так лічу. — Ну, ды позна ўжо пра гэта… А як табе праца ў школе? Падабаецца?

— Ненавіджу школу! Ненавіджу настаўнікаў! — прарывае Кацю. — Ненавіджу вёску з яе п'янымі прымітыўнымі пачварамі!

Зноў на хвіліну змоўкла.

— Дырэктар школы, п'янь і невук, — камандуе! Завуч — старая лахудра, тое ж самае — камандуе! Так званыя педагогі — кожны мяне вучыць! Карацей, не вытрымала я. Уцякла адтуль. Ужо дваццаць шэсць, ні сям'і, ні перспектываў стварыць. Што — загадаеш за трактарыста ісці? Кароўку заводзіць, свінак, у агародзе капацца? А з раніцы мурзатых дзетак мове Шэкспіра навучаць? Не, гэта не для мяне!

— Не баішся наступстваў, што па месцы размеркавання патрэбны тэрмін не адпрацавала?

— Хай робяць, што хочуць, а ў вёску я больш не вярнуся. І ў школе працаваць больш не хачу. Я з табою сустрэчы шукала — буду прасіць дапамогі. Усё ж мы не зусім чужыя…

Ага, значыць хоча, каб дапамагла працу знайсці? Чым жа я магу… Хіба пагутарыць з рэдактаркай?

— Ты, як я разумею, у нашу газетку хочаш?

— А што? Думаеш — не пацягну? Я ў інязе друкавалася ў насценным друку. Ды і ў школе, калі памятаеш, сачыненні мае па беларускай і рускай заўсёды адзначалі…

— Ды не, я не пра тое… Я ж карэспандэнтка, на працу не наймаю, — мямлю я і адчуваю, што ўжо абдумваю, як дапамагчы. Побач жа, пад пнём ад старой віхлы закапаная бутэлька з клятвай, яна муляе маё нутро, абавязвае… І навошта мне гэты клопат?! Ну чаму я не ўмею казаць «не»? Хоць чаму не ўмею? Сказала ж рэдактарцы, што мае матэрыялы будуць толькі па-беларуску! І нягледзячы на перыядычны ціск трымаюся пакуль. У газеце толькі і беларускамоўнага, што назва ды мае матэрыялы. — Ведаеш што, я з рэдактаркай пагутару, пахвалю цябе. Хоць мая пахвала можа і кепскую службу зрабіць. Не ў пашане сёння беларускасць, а я якраз у рэдакцыі адзіная, хто яе трымаецца. Але яна загадчыка аддзела лістоў шукае. Праца — разбіраць лісты і даводзіць тыя, на якія рэдактарка пакажа, да чытэльнага стану. Часам бывае нялёгка проста прачытаць, пішуць, здаецца, левай нагой. Часам немагчыма зразумець, аб чым пішуць. Часта пішуць крыўдлівыя графаманы са звышкаштоўнымі ідэямі. Кожнаму трэба адказаць, не пакрыўдзіць адмовай друкаваць, ну і гэтак далей. Увогуле справа не вельмі творчая, і не цяжкая. Здужаеш. Ты ж лінгвістка! Але абяцаць нічога не магу. Усё залежыць ад рэдактаркі.

— І чаго ты з гэтай беларускасцю носішся? Няўжо не разумееш, што зараз беларускамоўнасць — выклік уладзе? Сама сабе нашкодзіць можаш… — зусім шчыра здзіўляецца Кацька. — Нават калгаснікі ўжо па-руску «разгаварывают».

— Ну а ты са мной чаму па-беларуску? — пачынаю злавацьць. Больш за ўсё не магу трываць, калі здзекуюцца з беларускай мовы. Сама не ведаю, адкуль гэта ўва мне. Але чым далей жыву, тым мацней адчуваю. — Калі такая ўжо…

— …Ты не думай, я таксама люблю мову, — палохаецца Каця, відаць, баіцца, што перадумаю ёй дапамагаць. — Я, між іншым, чатырма мовамі валодаю — у тым ліку і беларускай. І няблага, як бачыш. Проста зараз не выгадна, я гэта хацела сказаць…

— А маму-тату сваіх любіць — выгадна?! А за гонар на двубоі біцца — выгадна? А Радзіму сваю абараняць?

(Чаго гэта я распалілася? Ці не той гэта выпадак, пра які перлы са свіннямі згадваюцца?)

— Чаго ты! Я ж нічога! Я ж не супраць. Час толькі зараз для беларушчыны неспрыяльны.

Так, неспрыяльны… І гэта вельмі мяне гняце.

* * *

У рэдакцыі гоман як у курніку. Кацька выйшла замуж! Ды як! Каб хто распавёў — нізавошта б не паверыла!

…Набліжаліся Каляды і Новы Год. Пахла елачнай ігліцай і мандарынамі. Я расшыфроўвала запісы з дыктафона, а Каця з сумным тварам шапацела лістамі за суседнім сталом.

— Здарылася штосьці? — спытала я. — Свята набліжаецца, а ты быццам жабу праглынула.

— М-гу… Пэтэвэшніца мая замуж выходзіць…

Сястру Машку Каця, калі не ў добрым гуморы, называе пэтэвэшніцай. Падкрэслівае бяздонную прорву, якая раздзяляе іх дзякуючы Кацінай вышэйшай адукацыі.

— То чаму не бачу на твары радасці? — паспрабавала скіраваць гутарку ў жартаўлівым накірунку. Ясна чаму. Машка на пяць гадоў маладзейшая, і будзе замужняя кабета. Падбавіць паліва на Кацін комплекс старой дзеўкі. Дзякуй Богу, я гэтага комплексу не маю. На ўсё Яго воля. — Родная сястра распраўляе крылы перад самастойным палётам. І каго яна мае ашчаслівіць сваёй рукою і сэрцам?

— Я здзіўляюся на мужыкоў! Інжынер-тэхнолаг, малады спецыяліст, з сябе нічога такі, цікавы — запаў на маю Машку, матальшчыцу-трапальшчыцу хрэнаву. А яна яшчэ носам круціць!

— Фэ, Кацька! Загадчыцы аддзела сродка масавай інфармацыі не да твару ўжываць словы накшталт «хрэнава трапальшчыца». Тым больш — у адрас роднай сястры.

— А хочаш, мядзведзік, я цябе на вяселле запрашу? — пасвятлела крыху.

— Як гэта ты запросіш мяне на чужое вяселле?

— Не твой клопат. Арганізую, Машка патэлефануе. Дык хочаш? Ну, згаджайся! Мне без цябе зусім сумна будзе.

Нешта мне і хочацца, і колецца. Чаго болей? Калі банкет мяркуецца ў час посту — іхняя сям'я з «праваслаўных атэістаў» і запраста могуць такое адчыбучыць, — то не пайду.

— Калі вяселле?

— Пасля Новага года, у суботу.

Ну, наш пост ужо скончыцца, а весяліцца ці не праваслаўным у час свайго — іхныя клопаты.

— Вы што — не маглі пачакаць сканчэння свайго посту? І што людзі скажуць — вас не хвалюе?

— Рэстаран заняты ад старога Новага года і ажно да канца лютага. Якая розніца — пост, не пост! Усё роўна на Новы год нават самыя зацятыя пост прыпыняюць. Дык чаго ўжо тут! А табе, пані каталічка, якія справы да праваслаўных? Сваіх забабонаў ты не парушыш, — пачынае злавацъ Каця. «Пані каталічка», «забабоны»! Ну і хай.

— Трэба было б распачаць у газеце дыскусію, — услых раздумваю я. — Праваслаўным варта перайсці з юльянскага на грыгарыянскі каляндар. Бо трымаць калядны пост у час Новага года — гэта ж катаванне. Зрэшты, мне здаецца — яго ніхто і не трымае. І, такім чынам, уся РПЦ грэшыць. Шкада толькі, што рэдактарка гэтую ідэю стапудова адмяце. Як жа! Праваслаўе ў нас — недатыкальная карова. Практычна дзяржаўная рэлігія. А цікава было б паслухаць аргументы «за» і «супраць»... Рызыкну выказаць меркаванне, што галасы парафіянаў і кліру былі б процілеглыя...

...У кватэры сцішанае хіхіканне дзяўчат. Гэта сяброўкі нявесты, што прыйшлі прыбіраць Машку да шлюбу. З пакоя ў пакой, як мядзведзь, кідаецца цётка Наташа, Каціна і Машына матуля. Злосная, што цмок: «Ну дзе гэтая кабыла бязмозглая шлёндрае! Праз паўгадзіны жаніх выкупляць прыедзе!». І тут жа палохаецца — няўмела, быццам ад мух адмахваецца — хрысціцца: «Можа, здарылася што, барані Бог! Можа, у міліцыю патэлефанаваць?»

Машка ўранні пайшла ў цырульню, да «стыліста», рабіць святочную прычоску. І як у ваду! Радня бліжэйшая сабралася, дзеўкі з працы прыйшлі, хутка жаніх са світай прыедзе — «выкупляць» ды ў ЗАГС везці, а нявесты няма. Цётка Наташа псіхуе, радня з устрывожанымі тварамі — баяцца, відаць, што банкет сарвецца — яе супакойвае, дзеўкі-дурнічкі — ім хоць бы што — «хі-хі-хі». Мы з Кацькай на канапе сумуем. І вымалёўваецца на твары Кацьчыным не трывога, што зусім натуральна было б, а... злараднасць, ці што? А можа, здаецца мне...

— Зусім забылася. Жаніха як клічуць? — пытаюся я ў Каці.

— Аскольдам...

Во як! Што там за вараг такі? Развялося ў Беларусі розных Русланаў ды Аскольдаў! Сымоны ды Тамашы не ў пашане. Праўда, бум на Алесяў. Дзяўчынак.

— І якой крыві гэты Аскольд? Надта ўжо імя нянаскае...

— Якая розніца! Абы мужык не гультай быў, не басяк — пры грашах, не п'янь, і каб уначы сваю справу рабіў. Ну, і каб налева не глядзеў!

— Не скажы! Я неяк тэлеперадачу глядзела, там армянка — дужа прыгожая і дужа разумная. Вядучы пытаецца: «Чаму гэта вы, армянскія жанчыны, ну, за рэдкім выключэннем, выходзіце замуж толькі за армянаў?» Ведаеш, што яна адказала? «Мы — маленькая нацыя і таму на армянскіх жанчынах ляжыць адказнасць за яе захаванне. Мы не маем

права нараджаць не армянаў». Малойца! Паважаю! Мы таксама нацыя не вялікая, і на нас такая ж адказнасць. А то нашы дзеўкі гатовыя з кожным арапчанём шлюб узяць — толькі б за мяжу! (Ой! Забылася пра Кацькінага турка! Не трэба было пра арабаў…)

— Супакойся, п-патрыётка! Аскольд беларус. Так што Машка беларусікаў народзіць, — прапела, нядобра бліснуўшы вачыма. — А я лічу — дзе чалавеку добра, там яму і радзіма.

…Нахабна задзілінькаў пры дзвярах званок, затупалі ногі, дзеўкі вываліліся ў прыхожую, цётка Наташа ўперадзе. Адразу стала зусім цесна. На парозе тоўсты дзядзька, накрыж праз плячо чырвона-зялёная перавязь з надпісам «Сват». За ім, на пляцоўцы, натоўп. Уціснуліся ў прыхожую, стала яшчэ тлумней і цясней. Вось і жаніх, з белай кветкай на грудзях. Худзенькі, стрункі, рост сярэдні. Залысіны вялікія, праз пару год будзе зусім лысы. Погляд крыху збянтэжаны, але трымаецца смела.

«Чулі мы — ёсць добры тавар у вашай хаце для нашага маладога купца…» — пачаў сват, і адразу перабіла цётка Наташа з роспаччу на твары: «Не ведаю, што рабіць! Аскольдзік! Маша з раніцы пайшла прычоску рабіць, і ўжо чатыры гадзіны няма… Можа, здарылася што-небудзь? У міліцыю званіла — смяюцца! Кажуць, не здаралася бліжэйшым часам нічога. У бальніцу званіла — таксама няма!»

Цікава, як адрэагуе жаніх? Моцныя нервы мае. Ніякага хвалявання: «Нічога, пачакаем, Наталля Віленаўна. Можа, якую вельмі складаную прычоску робіць? Вы не ведаеце, у якую цырульню пайшла? Шкада. Нічога, пачакаем… Можна зайсці ў пакой?»…

…Жалезныя нервы ў гэтага Аскольда. Ужо гадзіну са сваёю «світай» крыжаванку разгадвае. І твар зусім спакойны… Цётка Наташа па ўсім горадзеназвоньвае. Безвынікова пакуль. Ой, нешта і ў мяне на душы за Машку неспакойна. Няўжо якое няшчасце? …



…Ніякага няшчасця! Жывая-здаровая Машка! Толькі што патэлефанавала. Цётка Наташа спачатку на яе горла драць пачала і лаяцца, але адразу танальнасць змяніла, запела, ну чыста Каця, калі хоча нечага выкруціць: «Машачка, ты што гэта робіш? Ты ж мяне ганьбіш! Машачка! Ну адумайся! Аскольд ужо дзве гадзіны чакае, людзі сабраліся! Што я людзям скажу? Машка, неадкладна ідзі дадому! На вось, з Аскольдам пагавары… Аскольдзік, пагавары з Машай!.. Ой людзі, ой, якая ганьба!»

…Ну, Машка! Ну зараза! Во клопату нарабіла! І чым толькі думала раней? Круціла хлопцу мазгі, а зараз адмовіла. У дзень вяселля! Але Аскольд які! «Ты цвёрда вырашыла? Ну, глядзі… Твая воля… Але магла б і раней…».

Спахмурнеў. Маўчаў з хвіліну. Усе з выцягнутымі тварамі, шыкаючы адзін на другога, глядзелі. Потым звярнуўся да цёткі Наташы: «Наталля Віленаўна, нядобра Марыя са мной паступіла. Але не хоча за мяне замуж, у яе, аказваецца, іншы кандыдат у мужы ёсць. Ну, нічога я тут зрабіць не магу. Але людзі на вяселле сабраліся, нельга іх падманваць. Выдаткі немалыя зроблены. Я мяркую — пайшоў па гэтым шляху, дык трэба да канца ісці. — Голас асекся. Пракашляўся. — Наталля Віленаўна, у Вас другая дачка ёсць, Каця. Калі ўжо так здарылася, я прашу ў Вас рукі Каці. — І адразу павярнуўся да нас, мы на канапе сядзелі. І апусціўся на адно калена: — Каця, выходзь за мяне!»

Ніколі я такога твару ў Кацькі не бачыла! І каб плакала, таксама не бачыла. А цётка Наташа адразу войкаць і бажкаць перастала, за Кацьку — ды на кухню. Ды зачыніліся. Праз паўгадзіны — загуло! Распісвацца не ў ЗАГС паехалі, а ў сельсавет, там сватаў брат старшынёй. І ўбор вясельны на Кацю няблага сеў!

Нават не ведаю, як мне да гэтага ўсяго адносіцца… Трэба, каб уляглося.

* * *

…Дзе зараз Броня? Згадалася яна мне, як праз тыдзень пасля нечаканага шлюбу пачала Кацька на працу прыходзіць усё больш сумнай і маўклівай. Я паспрабавала прычыну выпытаць, ды дзе там! Яна заўсёды, колькі памятаю, замкнутай была. Толькі тады магла распавесці нешта, калі разлічвала, што слухачы зайздросціць пачнуць.

А ўчора вочы Каціны чырвоныя, запухлыя. Пад вачыма чорна. Выраз твару — быццам, не дай Божа, адразу ўсіх сваякоў пахавала. І сама мне адкрылася, відаць, цяжка крыўду ў сабе насіць. Вось тады Броня мне і згадалася. Дакладней — Казік, Бронін брат, што лічыў немагчымым ажаніцца з папсаванай дзеўкай. Нават і не з дзеўкай ужо — якая ж дзеўка, калі папсаваная? Кабета.

Аскольд Кацін хоць і малады, але дасведчаны. І пачаў пасля шлюбнай ночы выведваць — што ды хто ў цябе да мяне быў? І з аднаго боку пад'едзе, і з другога. «Мы ж, — кажа, — павінны сужонскае жыццё з чыстага аркуша пачынаць, павінны паспавядацца адно перад другім». І ўсё гэта так ласкава, пераканаўча… Кацька, хоць і хітрая, і старэйшая, і знаўцам мужчынскай натуры сябе лічыла, паддалася і распавяла пакрысе ўсе свае прыгоды. Тут і аказалася — хоць і канец другога тысячагоддзя на двары, а мужык, ён мужыком заўжды застаецца. Я то ў гэтым была перакананая, а Кацька — не. Эмансіпэтка цэнтральнаеўрапейская, даруй Госпадзе! Не, я не схільная каб мужу лгаць, хаваць ад яго нешта, зусім не. Але ж калі награшыла — ідзі да свайго папа, спавядайся перад Богам, а грахі ў сям'ю не цягні.

Як дайшло да турка, які для Каці кватэру здымаў, на цёплае мора адпачываць вазіў, да дзіцяці, якога на свет не пусціла, — сказаў Аскольд, што не патрэбна яму шлюха, ды яшчэ забойца. Каця яму — а навошта ты тады мне замест Машкі шлюб прапанаваў? Бачылі ж вочы, што набывалі… А Аскольд: на ілбе не напісана, думаў, прыстойная дзяўчына, а найбольш не хацелася людзей расчароўваць, сваякоў, што на вяселле назапрашаў.



І вярнулася Кацька ў маміну кватэру. Пабыла замужам ад Куцці да Калядаў… Шкада яе.

* * *

— …Аршуля, што ты панапісала! Я давала тэму пра гарадское тэлебачанне, а цябе куды занесла? — выгаворвае мне рэдактарка, Надзея Мікалаеўна. У нас сёння «планёрка» — кожны чытае матэрыялы кожнага і ў сераду, на планёрцы, выкрывае бяздарнасць калегаў. Потым калегі выкрываюць наўзаем. Надзея Мікалаеўна прыдумала, мяркуе гэтак палепшыць якасць матэрыялаў. Яна ўвесь час генерыруе ідэі, якія спрабуе адразу прымяніць. Калектыў рэдакцыі маўкліва супраціўляецца, і ўрэшце яе ідэі альбо ціха канаюць, або прыжываюцца зусім не ў тым выглядзе, як іх прыдумала наша няўрымслівая «шэфіня». Што датычыць мяне, то я даўно пахавала для сябе ідэю «планёркі» і ніколі нікога не выкрываю. Альбо адмоўчваюся, альбо пахвалю каго-небудзь. Мажа, гэта і беспрынцыпова, але мая справа — пісаць, а не крытыкаваць. І ў гэтым мой прынцып. Каб быць справядлівай — адзначу, што яе ідэя наконт «дзяжурнага па друкарні» адчувальна зменшыла колькасць памылак у газеце.

— На якія вышыні ты спрабуеш узляцець? — усё больш распальваецца рэдактарка. — Хто табе даў права крытыкаваць беларускае тэлебачанне? Ты хочаш для мяне непрыемнасцяў? Мне ўжо абрыдла выслухоўваць штотыднёва нараканні выканкамаўскага ідэолага! Ты што — за цэнзуру? За забарону трансляцыі расійскіх тэлеканалаў?

— Можна сказаць? — перапыняю я начальніцу. Калі своечасова не «адабраць мікрафон», яна разыдзецца, як цецярук на таку, кажуць, іх нават гукам стрэлу не спыніць.

— Ну кажы, — дазваляе Надзея Мікалаеўна.

— Чаму ў грамадстве падае аўтарытэт сям'і? Чаму краіна знаходзіцца на мяжы дэмаграфічнай катастрофы? — Дуркую. Хай калегі павяселяцца. — Таму, што наша грамадства разбэшчваецца тэлебачаннем! Якія прыклады, якія сацыяль-

ныя стандарты падаюцца насельніцтву ў якасці ўзору? Ну, хоць бы пад выглядам так званага «грамадзянскага шлюбу»? Насельніцтву даводзіцца, што гэта норма! Глядзіце — усе вядомыя і папулярныя артысты, палітыкі, тыя, з каго шараговыя людзі бяруць прыклад, жывуць менавіта так. Нават тэрміналогію вывернулі, бо «грамадзянскі шлюб» — гэта той, які не асвечаны царквой, а толькі зарэгістраваны дзяржавай. У нас жа такім шлюбам сталі называць звычайнае… звычайны блуд, сужыцельства. Яшчэ якіх-небудзь дваццацьтрыццаць гадоў таму нараджаць па-за шлюбам лічылася ў грамадстве ганьбай. Зараз жа нават вельмі вядомыя людзі выстаўляюць байструкоў напаказ, і гэта ўжо норма.

— Словы выбірай… І без намёкаў, — бурчыць начальніца.

— Чаму так падае грамадская мараль? — працягваю я. — Таму, што мы знаходзімся ў інфармацыйным полі Расіі, тэлебачанне якой якраз і займаецца падрывам маралі. Аб'ектыўна Беларусі гэта выгадна, бо набліжае распад Расійскай імперыі, але з-за знаходжання ў іхнім інфармацыйным полі расійскае тэлебачанне разбурае і наша грамадства…

— Усё! Хопіць! — спалохана войкае Надзея Мікалаеўна. — Ты думай, што вярзеш. Ты працуеш у дзяржаўным сродку масавай інфармацыі! Газета з'яўляецца органам прапаганды дзяржаўнай лініі! Калектыўны арганізатар і прапагандыст!

— А я думаю, што газета павінна даваць інфармацыю. Праўдзівую. Чытачы самі вырашаць — што да чаго… Тым больш — пару дзён таму наш «усенароднаабраны» добра капа Расіі прайшоўся! Так што «дзяржаўная лінія» на месцы…

Калегі з цікаўнасцю назіраюць за перапалкай. Не ўмешваюцца.

— Думаць, Аршуля, тут буду я! — ускіпае «шэфіня». — Твая… ваша справа, — абводзіць позіркам увесь «творчы калектыў», — дакладна выконваць заданні рэдактара. І не лезці ў палітыку. Матэрыял твой у нумар не пойдзе! Не пойдзе, я сказала! Гэта ўсё роўна, як заяву на звальненне падаць. — Змоўкла. І дыхае цяжка.



— Так… Ідзём далей. Каця, у цябе там ліст той бабулькі быў, як яе… Ну, змагаркі з сабакамі. Падрыхтавала?

— Гатова, Надзея Мікалаеўна, — пішчыць Кацька. З рэдактаркай голас яе становіцца зусім ужо ціхмяным і тоненькім.

— Гэты ліст пойдзе замест знятага Аршулінага матэрыяла. А ты, Аршуля, сёння ж знайдзі ў выканкаме рашэнне па вызначэнні ў горадзе пляцовак для выгулу сабак. І правілаў утрымання. Было такое, гадоў пяць-сем таму. Надрукуем ліст антысабачніцы і ў процівагу — тое рашэнне. Ну, і такія-сякія каментары… — і пад смех прысутных дадае: — Яна напіша: «Пачаўся генацыд сабак, захочаш нацкаваць на маскаля — няма каго!»

Ну вось… Сэрца прагне высокага, а тут — бац, і ўсё не высокае! Замест высокага — пра выгул сабак. Шворкі-намызнікі, рэгістрацыя ў жыллёва-камунальнай службе, штрафы. Лепш бы я ў дзярмо наступіла!

…Пакуль перабіраем з сакратаркай архіўныя папкі, чуецца мне з-за дзвярэй кабінета гарадскога ідэолага быццам бы голас Каці. «Пі-пі-пі», потым мужчынскі «бу-бу-бу», потым зноў «пі-пі-пі», словаў амаль не разабраць, нешта накшталт «…яе погляды цалкам разыходзяцца з лініяй выканкама…» і зноў «бу-бу-бу». Асабліва не прыслухоўваюся. Адкуль там можа быць Каця? Відаць, проста галасы падобныя… Знайшла тое, сямігадовай даўніны рашэнне — і назад, у рэдакцыю. Заўтра ўвечары газету ў друк здаюць, а я са сваімі сабачкамі сёння павінна паспець.

…За вокнамі цёмна. Засядзелася нешта за працай. Каментары да «сабачых» справаў учора паспела напісаць. А сёння ўжо ў наступны нумар матэрыял раблю. Канвеер… За спіной — ажно здрыганулася, так Каця ціха ўвайшла: «Мядзведзік, ты дадому? Будзь сябровачкай, занясі па дарозе макет у друкарню. Нічога вычытваць не трэба — усё вычытана. Табе толькі ў друк падпісаць. Я сёння дзяжуру, а тут мама патэлефанавала, чагосьці тэрмінова прыйсці просіць». — І пенал з макетам газеты падсоўвае. І я бяру. Здаецца, верыць усім запар — мая спецыяльнасць…

* * *

...Усю ноч пад акном бесперастанку выюць каты. У паўзах я засынаю — і мне сніцца Кацька са зграяй сабак на шворках. Кацька спрабуе надзець на мяне намызнік. Потым зноў завыванні. І гэтак уся ноч — з Кацькай, сабакамі і катамі. Падымаюся з галаўным болем і спазняюся на працу.

...Што гэта робіцца? У рэдакцыі поўна чужых. Іх твары строгія, сур'ёзныя, поўныя самавітасці. А нашыя чагосьці хаваюць ад мяне вочы. О! Намеснік старшыні гарвыканкама па ідэалогіі — гліст яму ў машонку! — тут. Я яшчэ не здагадваюся, што ўсё гэтае збірышча разнастайных вартасцяў і гонару — па маю душу.

— Аршуля! Зайдзі да мяне! — кліча, прыадчыніўшы дзверы, Надзея Мікалаеўна. Усе крэслы ў кабінеце занятыя выканкамаўскімі, і я застаюся стаяць пасярэдзіне. У акружэнні. У рэдактарскім крэсле галоўны ідэолаг, рэдактарка месціцца ля сцяны.

— Вы падпісвалі газету ў друк? — пытаецца чыноўнік.

Здарылася вось што. На першай паласе сённяшняй газеты змешчаны парадак дня чарговага паседжання гарсавета. І там чацвёртым пунктам ідзе «прыняцце праграмы прыватызацыі камунальнай уласнасці». Невядома як, але гэты пункт выйшаў з памылкай. Замест «прыватызацыі» надрукавана «прыхватызацыі». З-за гэтай памылкі ўвесь вэрхал. Нумар пайшоў пад нож.

— Вы звольнены! — кажа мне ідэолаг, і ў яго вачах я бачу непрыкрытае зларадства.

— А што, выканкамаўскія клеркі ўжо наймаюць-звальняюць журналістаў? — «пырхаю» я. — У мяне ёсць начальніца! Надзея Мікалаеўна, я патрабую разбіральніцтва. Учора я ўсяго толькі аднесла макет у друкарню.

— Гэта ваш подпіс? — Чыноўнік паказвае мне кніжку з друкарні.

— Подпіс мой. Надзея Мікалаеўна, скажыце яму, я ўчора не дзяжурыла! Я папросту занесла макет у друкарню.

Рэдактарка паціскае плячыма і апускае вочы.



— Ніякіх разборак, апрача гэтай, не будзе. Вы звольнены, і гэта рашэнне канчатковае.

Я выскокваю з кабінета. Шукаю Кацю. Сядзіць за сваім сталом, корпаецца ў лістах чытачоў.

— Кацька! Мяне звальняюць!

— Чым я магу дапамагчы? — Холадна і адхілена.

— Кацька! Ну як жа! Гэта ж ты павінна была падпісваць газету ў друк! І ты, а не я «прамухала» памылку ў парадку сесіі! І рэдактарка з карэктаркай! А я нават не глядзела той макет! Стоп! — Раптам мне згадваецца голас, падобны на Кацін, — учора ў кабінеце выканкамаўца, і пранізвае здагадка. — Ці ты не «прамухала»? Дык гэта была такая аперацыя па маім звальненні? Ого! Я сабою ганаруся! Эх, Кацька, мінамёт ты гвардзейскі!

* * *

...Глытаючы слёзы, поркаюся палкай ля гнілога пня на «нашым» пляжы. Пакуль была на людзях — трымалася. А тут нешта расслабілася.

Цяжка, ля пня дзірван, а ў мяне «палка-капалка» замест рыдлёўкі. Але дзе ўжо было ісці па тую рыдлёўку — не памятаю, як тут апынулася.

Недзе вось у гэтым месцы закопвалі. Не павінна быць глыбока. Ага! Здаецца, тут! Адкідваю палку, ламаючы пазногці, разграбаю пясок, і — вось яна! Брудная і агідная. Сучок-корак ламаецца, прыходзіцца прапхнуць унутр. Спрабую зазірнуць у рыльца. Не бачна нічога. Недзе валяўся кавалак цэглы. Трэба разбіць, асколкі збяру і вынесу.

...Трымаю ў руках вільготны аркушык. І... пусты. Нават клетак няма. Сучок той аказаўся кепскім коркам, у бутэльку трапіла вада. Змыла клятву.

# Ігнась-чарадзей

1

Валун на краі поля цёплы, што печ, і вялізны. Сапраўдная скала. Ігнаська распасцёрся наверсе. У сінім, без адзінай хмаркі небе кругамі плавае бусел. Усё вышэй і вышэй. Ігнатавы рукі раскінуты ўшыркі, нерухомыя. Бусліныя крылы таксама нерухомыя.

«Глянь ты! Не махае і не падае. Нават падымаецца. Цікава, якая адтуль зямля? Вось бы ўзляцець як гэты бусел… — думае Ігнаська і з усхліпам уздыхае. — Нават не як бусел, а як крумкач або як ястраб. І зверху — на Толіка. І дзюбай па галаве!..

Не. Як бусел лепей. Раскінуў крылы, і плывеш, плывеш… А Толіку я таксама добра надаваў! Аж заенчыў. Кусацца, канечне ж, не варта было, але што рабіць — схапіў за шыю, паваліў, наваліўся, што не ўздыхнуць. Справіўся! На два класы старэйшы! Ды яшчэ палку ўхапіў! — Памацаў вялікі сіняк на клубе. — Каб не тая палка, невядома, чый бы верх быў».

Валун, аблюбаваны Ігнаськам, — на краі поля, што ля Францішкоўскай гары. За полем — Навіны, вёсачка ў адну вуліцу, за ёй — Бесава балота, туды Ігнась не ходзіць, баіцца змеяў. Хоць ніводнага разу тых змеяў не бачыў.

Злева, за які кіламетр ад вёскі — лес, а на ўскрайку лесу — хутар. Ігнаська з таго хутара. Сумна яму ў час вакацыяў, таму бегае да навінскіх дзяцей гуляць. А тут гэты Толік з Мінска прыехаў, задавака. Ходзіць з малымі і здзекуецца. І тое яму не так, і гэта не гэтак. І размаўляеце вы няправільна, і апранаецеся, і паравоза баіцёся… Даўся яму гэты паравоз! Ніхто яго не баіцца, хоць і бачылі толькі ў кіно. А сам Толік? Каровы баіцца, індыка таксама. Гусей. Елкі ад хвоі не адрознівае! Грака ад вароны!



*«Вада не в студні, студень — эта еда такая, вада в калодцы!»* — «Сам ты — калодка!» Вось і пабіліся…

Кепска, што пакуль Толік не з'едзе, нельга будзе да Паўлюкоў на тэлевізар хадзіць. На Ігнатавым хутары электрычнасці няма. Можна было правесці — тата казаў, — але за свой кошт, ім не здужаць.

На ўсе Навіны два тэлевізары — у Паўлюкоў і ў Харужыкаў. То як фільм які — паўвёскі ў адных, паўвёскі ў другіх. Неяк глядзелі гімнастыку, спаборніцтвы. Дык Паўлючыха кажа — гэтага не можа быць. Каб людзі такія штукі рабілі. «Гэта, — кажа, — ток!» Паспрабаваў Ігнаська растлумачыць, што гэта спорт такі, што гэта на самай справе, ды дзе там! Ледзьве з хаты не выгнала! Хоць і старая, гадоў сорак, а не ведае нічога…

З тае пары пачаў Ігнат вучыцца на руках хадзіць і сальта круціць. Падаў, сінякі набіваў. Часам нават кроў з носа ішла. Але ж навучыўся! Не так, каб ужо надта добра, але метраў дзесяць прайсці мог. А сальта — калі з якой-небудзь купіны, то добра, на ногі станавіўся, а калі на роўным, то ўвесь час на «пятую кропку». Прадэманстраваў Паўлючысе — плюнула: «Ат! Дурнота!».

Добра тут. Зверху сонейка грэе, знізу камень. Млявасць ва ўсім целе. Пацягнуўся, ажно хрыбетнік шчоўкнуў, перавярнуўся на жывот. Камень ля самых вачэй цёмна-шэры, шурпаты. Калі прыгледзецца — крупінкі відаць. Шэрыя, жоўтыя, чорныя — розныя. Мурашка спяшаецца. Відаць, хоча хутчэй у свой мурашнік трапіць. Барозначкі па паверхні. Яны для мурашкі, як канавы глыбокія. Пальцамі па барозначках правёў. Здаецца, гэта літары нейкія. Прыпадняўся на кукішкі. Так, літары. Але ўсё лішайнікам зарасло і мохам. Не прачытаць. А гэта што? Падобна на сляды чалавечыя. Быццам стаяў тут, на краі каменнай пляцоўкі, босы чалавек і пакінуў сляды… Можа, калісьці, даўней, гэты камень быў не камень, а… як гліна. А потым закамянеў, як у горне. Ігнась бачыў шмат разоў — дзядзька Жылінскі круціў з мокрай гліны вазоннікі. Потым высушваў іх і абпальваў у печы

вы маглі яе абараніць, яна… — тут кэп пажаваў ніжнюю губу і што «яна…» працягваць не стаў. — Карацей: камандзіры баявых часцей! Рапарты аб заахвочванні адпачынкам — толькі праз турнік!

У гэты момант яго тузанула за язык нейкая халера:

— А хто здолее зрабіць, — паўза, думаў, якую лічбу назваць, каб паставіць заведама немагчымую ўмову, — …трыста пад'ёмаў пераваротам — адразу даю дзесяць сутак адпачынку… Без уліку часу на дарогу!

«Даю» было сказана занадта саманадзейна — улады заахвочваць адпачынкам кэп не меў, мог толькі хадайнічаць перад камандзірам дывізіёна.

Тым жа днём ён апынуўся ў заведванні Пеці. Мог жа трапіць, напрыклад, у штурманскую, ці там радыёрубку, або зазірнуць у машыннае аддзяленне, дык не — да Пеці ў хімпост! Камандзір карабля абавязаны «сістэматычна аглядаць жылыя і службовыя памяшканні…», а яшчэ «ўсебакова вывучаць увесь асабовы склад…» — ёсць такія сказы ў Карабельным статуце.

— Што, галуба? — голас кэпа гранічна ласкавы і прыязны. — Паглядзім, што ў цябе тут… Ну, так сабе… Чыста… А адчыні-тка мне прыбор! А якія тут павінны быць засцерагальнікі? Га?.. Мг-м… Адпавядае… Ты ўяўляеш, галуба шызая, учора размеркавальны электрашчыт адчыняю, а там замест плаўкіх засцерагальнікаў — кавалкі арматуры ўстаўлены! Вось жа пі-й-яна-форта-гравісьсіма! Ну я некаму развальцую, хай толькі з камандзіроўкі вернецца… А ты малойца! Хоць адзін на экіпажы не ўломак існуе… І пост у цябе ў прыстойным стане…

— Таварыш камандзір! Вы праўду сказалі сёння, што калі трыста пераваротаў, то ў адпачынак адпусціце? — флегматычна цікавіцца Пеця.

— Ты што, сынку, гарпія твая мама! Я! Калі-небудзь! Лгаў?! Эх, галуба! Разумееш, ёсць такая рэч — афіцэрскі гонар… Афіцэр сказаў — усё! Памрэ, але зробіць!



— Ага! Мне ў ваенкамаце падпалкоўнік казаў — два гады буду служыць. А на самрэч сюды запёр, за Палярнае кола, на тры. А яшчэ сваяк… — нахабна выказвае Пеця сумненне ў існаванні афіцэрскага гонару.

— Ну, ты параўнаў — з ваенкаматаўскімі! Яшчэ б з гэтымі, каторым нават зброю не даюць… З будаўнікамі! Альбо, барані Бог, з міліцыянтамі. — Твар афіцэра збіраецца ў грымасу крыўды.

Разважаннямі пра гонар Пецю з магістральнай думкі не сапхнуць:

— Таварыш камандзір! Я раблю-раблю тыя перавароты, але скура на далонях ад мяса адстае, балюча.

Тут камандзіра зноў тузанула за язык, і ён распавёў, як юнаком зялёным быў закаханы ў гімнастку, якія ў яе былі цвёрдыя далоні, як прыходзіў на трэніроўкі і бачыў на тых далонях скураныя накладкі. А Пеця нетаропка выцягнуў аркуш паперы, аловак, і папрасіў кэпа прынцыповую схему накладак намаляваць.

Застаўшыся ў хімпасце адзін, Пеця пакапаўся ў сваёй гаспадарцы, выцягнуў халяву ад ялавага бота, дратву, шыла, іголку. Змалку быў гаспадарлівы…

А дні праз тры падлавіў камандзіра на верхняй палубе. Якраз на юце, ля турніка. І ўжо накладкі самаробныя на далонях. І — ух! Трыста разоў адным духам… І чырванеў, і мямліў зніякавелы кэп, што вось проста зараз Пецю нельга на чыгунку ды ў Сінявокую, што трэба да камандзіра дывізіёна звяртацца, але не зараз, а перад святамі («Ты ж, галуба, хочаш на Дзень ВМФ дадому трапіць?»). Бліжэй да Дня ВМФ ён у плешку разаб'ецца…

## 2

…Перад адпраўкай кэп на ўласныя вочы агледзеў Пецю, папалохаў трыбуналам на выпадак спазнення, зрабіў інструктаж па правілах паводзінаў, адпускны білет уручыў. На ўсялякі выпадак дзень вяртання на календары чырво-

ным абвёў. Мо дарэмна чырвоным — колерам небяспекі і трывогі? Мо калі б якім зялёным, то ўсё спакайней было б?

Бо надышоў «чырвоны» дзень, а замест Пеці прыйшла з Беларусі тэлеграма.

А на вячэрнім дакладзе камандзір дывізіёна Пецькам пацікавіўся, таксама кантралюе, грыб стары!

— Адпачынак прадоўжаны ў сувязі з хваробай, таварыш капітан першага рангу! На трое сутак. Ваенным камісарам. Тэлеграма сёння прыйшла. Завераная, — бадзёра далажыў камандзір ваеннай пасудзіны.

Твар камандзіра дывізіёна з класічна-алкагалічнага, адразу злосна-ўрачысты — куткі рота ўніз, ля носа складкі, вочы вырачаныя, цэдзіць праз зубы:

— Ка-пі-тан-лэй-тэ-нант! З гэ-та-га трэ-ба па-чы-наць! Я — што? Паві-нен з вас гэ-тую інфар-ма-цы-ю вы-цяг-ваць?

— Я думаў, таварыш капітан першага рангу, што раз ваенны камісар…

— Ён думаў! Ты б тады думаў, як адпачынак для гэтага бабуіна выбіваў! Успомніш мае слова — хутка мы ўсім дывізіёнам будзем за вашым экіпажам дзярмо раз-гра-баць!

Разышоўся, корч. Лепш не пярэчыць.

— Так точна!

— Што — «так точна», гідрант-тваю?!

— Вінаваты, таварыш камдыў!

Любіць дывізіённы, калі «камдывам» клічуць, як камандзіра дывізіі суседзяў, контр-адмірала. Адмякае. Твар аплывае, складкі, вочы, рот — зноў алкаш-класік.

— Вінаватых б'юць. Кожны дзень пра гэтага… як яго…

— Васілевіч, таварыш камдыў!

— …Бульбаша гэтага, дакладваць!

Праз колькі дзён… Думаеце — Пеця вярнуўся? Тэлеграма! «Адпачынак… на тры дні… сувязі хваробай». Заверана ваенным камісарам.

Яшчэ праз тры — зноў тэлеграма…

— Што я казаў! «Лепшы на экіпажы! Каб усе былі такія!» — дражніць камандзір дывізіёна. — Н-ну, падла! Едзь, разграбай! Караблём хай памочнік пакамандуе. Па-ціхаму. Нам яшчэ тут пракурорскіх толькі не хапала! І — бліскавіцай!..

…У Лагішынскай бальніцы, дзе паводле тэлеграмаў павінен быў паміраць Пеця, пра ягоную хваробу не чулі. Але ж і хутка тут інфармацыя распаўсюджваецца! Не паспеў скончыць гутарку з доктаркай, як уварвалася распараная кабета:

— Я маці Пятра Васілевіча!

— Ну, і дзе ён? Чым гэта ён так хварэе, што ў войска нельга, а ў бальніцы не ведаюць?

— Ён дома. Запаленне лёгкіх! — выпаліла кабета і зрабіла страшныя вочы ў бок доктаркі.

— А вы дазволіце мне з ім сустрэцца? — І на ўсялякі выпадак дадаў: — Ці мне ўчастковага шукаць, каб да вас трапіць? Вы ж павінны разумець — справа можа дайсці да ваеннага трыбуналу… (Цьфу, толькі б не накаркаць!)

— Не-не! Тут не далёка. Запрашаю! — І па дарозе нешта тарахцела, зазіраючы ў вочы, а афіцэр не слухаў, перабываў у астрале, абдумваў — што рабіць далей, як выкруціцца, не наклікаўшы на сябе, на карабель, на дывізіён непрыемнасцяў. І вырашыў узяць аб Пеціным запаленні медыцынскую даведку, і з ёю назад. А як Пеця вычухаецца з хваробы, дык прыедзе сам. Нейкія сумненні крыху непакоілі з-за відавочнага хвалявання Пецінай матулі, але ж толькі што было сказана — ён дома, хворы.

Хрэна лысага ён дома! Гэта ж трэба так нахабна лгаць! У хаце кабета замітусілася, пачала накрываць на стол, а да пасланніка Поўначы выйшаў мужчына з рукамі, суцэльна пакрытымі сінімі «масцямі». Айчым. І зусім спакойна (што значыць, не сваё дзіцё!) пацікавіўся, на які тэрмін дзяржава садзіць сваіх сыноў, што нейкім чынам ухіляюцца ад ганаровага абавязку. Камандзір сказаў, што ён не звер, што спрыяць здачы старшага матроса ў лапы ваеннай пракуратуры і трыбуналу не імкнецца, але трэба тэрмінова вярнуць Пецю ў абдымкі ВМФ. Аб тым, што пры кепскім зыходзе і яму не паздаровіцца, разважліва прамаўчаў.

…З-за прыбярэжнага ракітніку выкаціў легкавік і спыніўся ля гурту дзяўчат у купальніках, што акружыўшы героя-марака, сакаталі звонкім рознагалоссем. Побач бруілася Ясельда. Пеця, загарэлы, мускулісты, у чорных плаўках і бесказырцы твар меў задаволены, лянівы, з напаўзаплюшчанымі вачыма. Гібрыд султана ў гарэме і ката, што гуляе з мышшу… Камандзірскае вока адразу адзначыла, што падначалены парадкам зарос. «Вось жа пудзель, ангідрыт-т-яго-маму!» — падумаў камандзір і выбраўся з легкавіка.

Пеця якраз распавядаў гісторыю, як дзякуючы ягонай, Пецінай, парадзе была прадухілена страшэнная катастрофа. «…Вочы ў кэпа — квадратныя! Ну, разгубіўся мужык! І — за каштан, гэта сувязь такая: «Хімік, што рабіць?» А я яму: «Кэп, не сцы! Трэба так, так і так…!» Тут Пеця ўбачыў героя свайго аповеду і папярхнуўся слінай.

## 3

…Вярнуў кэп Пецю на флот, адмазаўся даведкай — маўляў, насамрэч хварэў баец на запаленне лёгкіх. У іх там, у Лагішыне, усе адзін аднаму ці кум, ці сват, ці яшчэ які крыху сваяк, даведка не праблема. Дывізіённы палаяўся, ды і прыціхла ўсё пакрысе…

— …Таварыш капітан-лейтэнант, прашу дазволу дакласці. — Карабельны фельчар пераміналецца з нагі на нагу і чухае пахвіну. — Трэба адправіць старшага матроса Васіленку на абследаванне…

— Цябе самога трэба адправіць. Ты што чухаешся? Можа, мандавошак дзе налавіў? Не? Стой смірна, з камандзірам размаўляеш! Што там з гэтым абэлтусам? Калі запаленне лёгкіх — Бог ёсць!

— Не, таварыш капітан-лейтэнант, трэба зняць падазрэнні ў венерычным захворванні…

— Гоп-п-пачкі!.. Што — ёсць такія падазрэнні, альта-кумулюс-лентыкулярус?!



— Дакладна так… Сёння да мяне звярнуўся старшы матрос Васіленка са скаргай — у раёне галоўкі пеніса чырвоная язвачка. Вельмі падобна на першасны сіфіліс, таварыш камандзір…

— Сі!.. — Твар камандзіра наліўся чырванню, бровы заехалі амаль да макаўкі. — Я ж з ім тры дні! Бок ля боку! Мама яго паляшуцкая!.. Доктар! Бурам — хіміка ў санчасць, хай гэтага Пётру там пятрушаць! Госпадзе, толькі б не пацвердзілася!

Фельчар выйшаў з каюты, а камандзір сарваў з сябе вопратку, кінуўся да люстэрка — і кожны дробны пухірык на скуры здаўся яму шанкрам. Потым залез у душ і з гадзіну шкробся дзярпучай паліпрапіленавай вяхоткай, сплеценай са швартоўнага троса.

— …Таварыш камандзір, дазвольце?.. — Фельчараў твар зусім нерухомы. Як маска.

— Ну! Што там! Ды не цягні ты ката за… нос! Зрабілі аналіз? Рэакцыю Васэрмана?

— Не, таварыш камандзір… Старшага матроса Васіленку агледзеў дзяжурны ўрач…

— Ну, і?.. Што сказаў? Ну што ты як… цяжарная вош па мокрай задніцы?.. Што доктар сказаў?

— Прасіў перадаць, таварыш камандзір, каб абмылі Васіленкаў пеніс у растворы перманганату калію і не тлумілі яму мазгі…

— Так і сказаў? Ф-ф-у-у! Дзякуй Богу! Пракантралюй асабіста, каб ён свой… палавы дзетародны… Ясна? Марганцоўкі не шкадуй!..

…Праз тры дні прыйшоў ліст. З ліловым прастакутным штэмпелем «Пінскі скурвендыспансер». Паштар падняўся на ГКП, камандзір якраз камандаваў праваротам тэхнічных сродкаў. «…Прашу накіраваць Вашага ваеннаслужачага Васіленку Пятра на абследаванне… Меў сувязь з нашай пацыенткай…»

«С-с-у-ка! — зараўлі па караблі дынамікі «Каштана». — Хімік! Фельчар! Прыбыць на ГКП!»

— На, чытай, янот вушаты! Што?! Зразумеў? Я цябе інструктаваў перад адпачынкам? Інструктаваў ці не? Я што казаў наконт выпадковых сувязяў? Што я табе казаў?! Я што казаў — каб ты свой палавы хер ва ўсялякія сметнікі соваў?

— Адкуль жа я ведаў? — заканькаў Пеця, ўражаны больш за камандзіра. — Яна ж была як лебедзь! Ноч, месяц, бярозы! Аднакласніца!

— Бярозы! — зноў ускіпеў камандзір. — Лепей бы ты свой нефрытавы стрыжань дзе ў бярозу ўшчаміў ды зламаў! Я ж з табою за руку здароваўся! Ды ты, відаць, з усім экіпажам ручкаўся?

— Ён учора веставому кают-кампаніі дапамагаў! — высунуўся са штурманскай рубкі памочнік.

— Ой-ё-ё! — Зусім упаў духам камандзір. — Ведаеш што, Васілевіч? Не будзем мы цябе лячыць. Пасадзім пад замок у хімпасце, і будзеш там гніць!

— Не маеце права! — даў «пеўня» ашаломлены Пеця. — Я на дзяржаўнай службе!..

— ...Ты ведаеш, што ў твайго Васіленкі станоўчы вынік аналізу на сіфіліс? — патэлефанаваў флагманскі доктар. — Толькі што званілі з Палярнага.

— О, пайшла інфармацыя... — незадаволена прабурчэў у слухаўку камандзір. — Слухай, доктар, мяне зараз гэта ўжо не вельмі хвалюе. Хай лечыцца... Дарэчы, колькі яго ад гэтай трасцы будуць лячыць?

— Не доўга, у яго першасны. Месяцы два.

— Нічога сабе — не доўга! У мяне і так людзей некамплект на трыццаць адсоткаў... Ну, нічога не зробіш. Дык ты паслухай, зараз іншы клопат па тваёй частцы... Гэты архар апошнія дні ў буфеце кают-кампаніі працаваў. Як думаеш — можа, мне ўсіх афіцэраў і мічманаў на эрвэ накіраваць? І самому?..

— Ды не хвалюйся ты! Калі твой бульбашык канец у баршчы не паласкаў, а я думаю, што не паласкаў, то ён яшчэ не заразны...



## 4

— А-а-а! — Грыміць па знешнім трапе матрос Мелканян. — А-а-а! — залятае ў рубку дзяжурнага. — Пэця! Вада скочыў! Шлюпка спускай!

— Чаго ты гарлаеш, Ашот-джан, сэрца маё? — кажа дзяжурны па караблі. У паветры ўжо лётаюць «белыя мухі», вось-вось ляжа снег, вада ў затоцы нават летам градусаў шэсць, не Крым — Хто скочыў? Чаго скочыў? Куды?

— Пэця-хымык! Пірса ваду скочыў! — лямантуе Мелканян і, як вятрак, махае рукамі. — Жанчыну ратаваць скочыў! Шлюпку давай!.

— Якую да задніцы жанчыну? Табе, Мелканян, паўсюль жанчыны мрояцца...

— Жанчына скала ўпала! Хымык ратаваць скочыў! — Мелканян хапае мічмана за руку і цягне з рубкі на шкафут. Пасудзіна ашвартавана бортам да плаўпірса пад высокай гранітнай скалой, амаль вертыкальна навіслай над вадой. На скале лікі, «святая тройца» — Маркс, Энгельс і Ленін. Пад імі, ля ўрэзу з вады вытыркаецца камень. На камені валтузіцца Пецька, нешта да сябе спрабуе выцягнуць.

— Хымык! — Раве Мелканян. — Жанчыну ратуе! Шлюпку трэба!

Сапраўды, у такой вадзе пару хвілін — і кроў гусцее, сэрца не ў змозе праганяць яго па сасудах.

Званы звіняць «Аўрал». «Шлюпку да спуску!» З кубрыкаў вытыркаюцца незадаволеныя твары. «Адміральскі час» — адпачынак пасля абеду, святыя хвіліны. «Жопы ў жменю! — паддае бадзёрасці дзяжурны. — Чалавек за бортам! Пецька Васілевіч!»

Шлюпку скінулі так хутка, як ніколі не маглі ў час трэніровак. «І-раз! і-раз!» — падскочылі пад скалу да каменя. Там Пеця ў адной робе, гэта тое ж, што і голым, і кабета ў футры. Назад, да пірса, там ужо «хуткая» стаіць, з санчасці выклікалі. Санчасць якраз наверсе гэтай скалы, толькі да пірса дарога ў аб'езд ідзе, з кіламетр. Камандзір на пірсе, рас-

параджаецца. Таксама ў «адміральскі час» падушку ў каюце душыў. Кабета жывая, затарможаная, і перагарам ад яе прэ. А ў Пеці твар чырвоны, хоць прыпальвай.

— Мелканян, дапаможаш урачу, Васілевіча ў гарачы душ, потым да мяне ў каюту!

Сагрэлі Пецю пад душам, апранулі ў сухое, і як загадана — прывалаклі ў каюту да камандзіра. Той каюту на ключ, у сейф залез, «шыльніцу» дастаў, каністру з нержавейкі, і наліў шклянку спірту, «шыла» па-мясцоваму. «Пі, — кажа, — гэта зараз не п'янка, а прафілактыка. Дзеля захавання баявой гатоўнасці». Выцадзіў Пеця неразведзены спірт, нават не зморшчыўся, ажно кэп здзівіўся — «Ну ты і малойца, не па гадах» — і салёны агурок яму ў дзюбу. Пачакаў, пакуль той храбусцеў:

— Ну, як пачуваешся?

— Нармальна…

— Можа, і цябе ў санчасць?

— Не трэба, таварыш камандзір…

— Скажы «тпр-р-р-р-у».

— Тпр-р-р-р-у…

— Здаецца, і сапраўды нармальна. Ну, кажы, галуб шызы, як ты на той камень трапіў?

Чым матросы на Поўначы шэрае флоцкае жыццё расфарбоўваюць? Па-першае — алкаголем. Розныя шляхі ёсць, каб яго здабыць, але аб гэтым не будзем. Потым — для рукастых — «народны промысел». Скручваюць, напрыклад, па ўсім караблі бронзавыя дэталі і з гэтай бронзы розныя бліскучыя рэчы выштукоўваюць. Або раздзіраюць матрасы, дастаюць адтуль штучную скуру і хвацкія «дыпламаты» з тае скуры майструюць.

А Пеця прылаўчыўся рыбу лавіць. Прывязваецца да тоўстай жылкі трохсотграмовая гайка, вышэй на павадках тры рыбалоўныя гакі. На гак кавалак мідзіі, імі ўвесь пірс абросшы, і снасць з борта або з прычала — у ваду. Метраў на трыццаць-сорак. І трымаецца ў руцэ, на пальцы. Як на тым канцы тузанула — падсечка, другі раз тузанула — зноў падсечка, трэці… І выцягвае тры здаравенныя траскі. За гадзіну-другую кілаграмаў сорак рыбы можна нацягаць. І на камбуз коку. Жыццё весялей, і ад хлопцаў павага.

Стаялі тым разам у канцы пірса з Мелканянам, лавілі. І раптам віск, быццам свіння ў плот ушчамілася. Паднялі галовы — коціцца ўніз са скалы нехта. Затрымаецца за няроўнасць, павішчыць, і далей. Зноў затрымаецца… Па віску вызначылі — жанчына. Як нарэшце ў ваду бухнулася, не патанула, футра не дало адразу патануць. Плавае і зноў вішчыць. Скінуў Пеця шынель, боты, у адной робе застаўся: «Давай, Ашот, да дзяжурнага. Хай шлюпку спускае. А то зараз намокне футра ў дзеўкі — на дно пойдзе. Я яе вунь на той камень выцягнуць паспрабую».

— Ты шьто? Загінешь!.. — вызверыўся Мелканян, але затрымаць не паспеў. Пеця з пірса — салдацікам! І — сажнямі!

…Пеця Васілевіч, з Лагішына… Грунтоўны да немагчымасці…

## Вася і адмірал

Палярная ноч. Над гарадком, названым у гонар Магамеда Гаджыева, падводніка і Героя, лянiва варушыцца жоўта-зялёная паласа ззяння. Чорная вада ў Сайда-губе курыцца туманам. Ля пірсаў пабялелыя ад шэрані гарбатыя целы падводных крэйсераў. Па гадзінніку — раніца. Быццам крыкі муэдзінаў разносяцца над сопкамі: «На сця-я-аг! І гю-у-у-йс! Смі-йр-р-на! — Таварыш камандзір, час выйшаў! — Сця-я-аг! І гю-у-у-йс! Падняць!»

…З двух бакоў — ад зоны ў бок гарадка, і ад гарадка ў бок зоны рушылі насустрач адзін аднаму Вася і адмірал.

Дзень (калі гэтую настылую, скрыпучую цемру можна назваць днём) для Васі пачаўся няўдала. Толькі спусціўся ў корпус, нырнуў у свой «Алмаз», толькі сабраўся прыкімарыць ў закутку на канапцы — выклікаў старпом і загадаў ісці

ў ваенную пракуратуру. Гэта да гарадка два кіламетры і па гарадку паўтара. Вася — нештатны ваенны дазнаўца экіпажа. Яшчэ лейтэнантам прызначылі. З-за акуляраў. У Васі акуляры з круглымі шкельцамі — рыхтык пенснэ сумнавядомага наркома Берыі. Памочнік, п'яніца і брыдкаслоў паспрыяў: «Во, лейтэнант Вяргейчык, ён на Берыю падобны — яго дазнаўцам…» Зрок у Васі і раней быў не вельмі, пры паступленні ў ваенную вучэльню прыйшлося медкамісію ашукаць — вывучыць на памяць той радок табліцы, што зроку «адзінка» адпавядае. А на пятым курсе справа да акуляраў дайшла. Камісоўваць не сталі — не дзеля таго пяць гадоў дзяржава сродкі траціла, каб так проста на вольны хлеб адпусціць, балазе аператару вылічальнага комплексу сакалінага зроку і не трэба.

Мацюкнуўся Вася, апрануўся і — ў рубачны люк. Гэта труба такая, а ў трубе як пажарная лесвіца на трэці паверх. Хто маладзейшы ды спрытнейшы, па ім уніз на руках спускаюцца — там яшчэ для рук адмысловыя поручні прываранапы. Ж-ж-жых, і ўжо ўнізе.

Выбіраецца Вася наверх, а зверху ж-ж-жых — і ботамі па галаве. І акуляры з носа, і ўнізе жаласна — «Дзінь». Боцман, маму яго… «Ой! Прабачце, таварыш старшы лейтэнант! Не заўважыў!»

…Для адмірала дзень таксама пачаўся кепска. З вечара доўга не мог заснуць, круціла падагрычныя суставы і думалася, што ўжо мала засталося служыць, значыць, жыццё заканчваецца. Падняўся з галаўным болем і вырашыў да штаба прайсціся пехатою, падыхаць паветрам. Патэлефанаваў дзяжурнаму, каб прысылаў не машыну, а патруль.

Адмірал не меў бы двух «павукоў» на пагонах, калі б не ўмеў думаць, абагульняць, рабіць высновы. Меў перакананне — на свеце няма нічога новага. Усё, што будзе, ужо было, а ўсё, што было, будзе яшчэ. Таму па гарнізону без прыкрыцця ў выглядзе патруля не хадзіў. Неяк па маладасці, толькі атрымаўшы першага «павука», вырашыў агледзець



«гаспадарку». Час быў начны, але над сопкамі каціласа млявае сонца, якое ў гэтых шыротах летняю парою не заходзіць. З задавальненнем адзначаў, як рэдкія прахожыя, нягледзячы, што быў апрануты ў цывільнае, хуценька збочвалі, каб не сустракацца. Абышоў возера з фанернымі лебедзямі, пастаяў паслухаў дурныя крыкі чаек, якіх тут чамусьці называюць «бакланамі», прайшоў ля дома афіцэраў, наблізіўся да помніка. Помнік — высокая стэла з галавой падводніка ў пілотцы, а побач са стэлай — чатыры зямныя мерыдыяны, злучаныя колам-экватарам. Тоўстыя такія бетонныя мерыдыяны, якія з-за таўшчыні на нордавым полюсе не злучаюцца, заканчваюцца недзе градусах на васьмідзесяці. Па задуме мастака кампазіцыя павінна была сімвалізаваць тое, што для падводнага флоту няма межаў на ўсім зямным шары. Самі ж героі з атамных ракетаносцаў трактавалі помнік інакш: стэла, па іх думцы, сімвалізавала чэлес надводніка, а крывулі-мерыдыяны — аналагічныя органы падводнікаў.

Ля помніка, распаўсюджваючы навокал пах алкагольнага перагару, такавалі двое мічманаў. Наскаквалі адзін на аднаго, быццам вясеннія цецерукі. Наводдаль за імі зацікаўлена сачыла самачка. Выбірала больш годнага. Самачка ўбачыла галоўнага гарнізоннага начальніка, залапатала і зляцела. Мічманы працягвалі бойку. Гэтым летнім часам на флот прыбылі маладыя выпускнікі школы мічманаў. Яны яшчэ тут нікога і нічога не паспелі ўведаць. Апрача сталоўкі, што вечарамі працавала рэстаранам.

Адмірал пастаяў, паглядзеў. Слабакі. Згадаў, як ён некалі, яшчэ каплеем, у Северадвінску, у «Эрбээне» біўся амаль з усім вяселлем. Ішоў уперад і біў, біў, навокал падалі ад яго ўдараў, і такі дабраўся да жаніха… Эх, час!

…Адзін з мічманаў, той, што большы, злаўчыўся і рассадзіў меншаму нос. На крэмавую кашулю пырснула юшка. «Усё, трэба заканчваць» — падумаў адмірал.

— Гэй вы! Мічманы! Ану-тка перастаньце! — гаркнуў з металам у голасе. Гэта ўмеў добра.

Большы, які няспрытна тоўк закрываўленага, што спіной прыхінуўся да «надводніцкага чэлеса», закрываючыся ў «глухой абароне», цяжкім позіркам утаропіўся на адмірала:

— Ты, дзед, ідзі да бабулі… Таптаць яшчэ здольны? Ідзі патапчы…

— Я — камандуючы флатыліяй! — Так націснуў на галасавыя звязкі, што замест рыку даў пеўня.

— Ага. А я — цар Саламон… Ідзі, кажу, дзя-ду-ля! Да бабу-лі.

— Я каму кажу! — завішчэў адмірал. — Неадкладна перастаць!

— Ну, дзед, ты мяне дастаў! — Раззлаваўся, і адміральская галава раптам зазвінела, а ў роце з'явіўся смак крыві.

Усё, што было, будзе яшчэ. Больш адмірал без суправаджэння па гарадку не шпацыраваў.

…Вася невыразна бачыў цямнейшую паласу дарогі і плямы — чорныя, шэрыя, белыя. На дарозе постаць, відаць, хтосьці спазніўся на службу, але, зараза, не спяшаецца, нетаропка ідзе. За ёю, метрах у трыццаці — яшчэ тры, адна крыху ўперадзе, дзве на крок ззаду. Мяркуючы па такому шыхтаванню — патруль. Што ён тут робіць? Яму месца ў гарадку…

Першая постаць параўнялася, прыцішыла крок. Мічман — на пагонах расплыліся дзве плямы. І раптам крык: «Ці-лі-нант! Чаму чэсць не аддаяце?» Спыніўся, павярнуўся назад: «Па-першае — старшы лейтэнант! А па-другое — ты што, сундучара? Зусім апупеў?»

— А-а! — зароў «мічман». — Патруль! Затрымаць!

Ваську падхапілі пад рукі, павалаклі, паставілі.

— Прозвішча! З чыйго экіпажа? — грымеў «мічман». Вася тым часам нахіліўся над яго пагонам і з адлегласці дзесяць сантыметраў ясна ўбачыў адміральскія зоркі.

— Інжынер электронна-вылічальнай групы старшы лейтэнант Вяргейчык! Экіпаж… — І раптам зразумеў, што забыўся прозвішча камандзіра, вылецела — капітана першага рангу…



З усяе сілы паспрабаваў уявіць сабе камандзіра. Уявіў.

…Жукава! (Уф-ф!)

— Та-а-варыш старшы ці-лі-нант! Вы чаму чэсць не аддаяце! Што за хамства?!

— Прабачце, таварыш камандуючы… Я думаў… Мне здалося… што вы — мічман!

Адмірал здзіўлена пачаў разглядаць Васю. Вася падумаў, што тлумачэнне няпоўнае, і дадаў:

— Мне боцман сёння акуляры разбіў, таварыш адмірал, а без акуляраў…

…Акуліст у санчасці нешта капаў Васілю ў вочы, разглядаў там праз люстэрка з дзіркай, а потым пацвердзіў камандуючаму — той увесь час прысутнічаў пры праверцы — маўляў, так, зрок у старлея кепскі, і без акуляраў павінен бачыць на адлегласці невыразна…

Разышліся на ганку санчасці. Па адмірала прыйшоў легкавік, а Вася пехатою пайшоў у пракуратуру.

— От жа барзата! — думаў адмірал пра Васю.

— От жа падла! — думаў Вася пра адмірала.

## Адно толькі слова

Ішоў па прычальнай сценцы Кацярынінскай гавані начпо і думаў аб вялікай і магутнай рускай мове. Вось, напрыклад, слова «вы..баць». Гэта і аб'явіць спагнанне, і правесці выхаваўчую працу з падначаленым, і вылаяць за якіясьці хібы ў форме адзення, у дысцыпліне… ды за што заўгодна. Не кажучы ўжо пра асноўны, так бы мовіць, спракавечны сэнс.

А пра што яшчэ думаць палітработніку? Не пра міжпаходавы ж рамонт, ці там пра заняткі па спецыяльнасці. Палітработнік — асоба тонкая, гуманітарная. Думае пра высокае, не ўсім даступнае.

Адно толькі слова, а якая безліч нюансаў, значэнняў, тонаў-паўтонаў!

Вось злавілі, напрыклад, матроса ў самаволцы і арыштавалі, і на гаўптвахту пасадзілі. Адседзеў, вярнуўся — як ён пра здарэнне браткам-маракам распавядзе? Скажа — «вы…балі». Або застукаў яго камандзір баявой часці ў час прыборкі за нейкай іншай справай і разнос устроіў. «Не вымаючы». Зноў скажа: «бычок вы…баў».

Як мінаў караблі ОВРа, выскачыў з бліжэйшага СКРа матросік чарнявы. Усё правільна зрабіў — загадзя на стравы крок перайшоў, руку да бесказыркі ўскінуў і з моцным акцэнтам нешта прагергетаў. З усяго толькі і зразумеў контр-адмірал, што «…дазвольце звярнуцца…». Спыніўся: «Ну, што табе, сынок?» Няправільна гэта, парушае прынцып адзінаначалля, але што возьмеш з неадукаванага сына гор?.. Ці, можа, якіх там пустынь…

«Сынок» зноў загергетаў, і выдзеліў слых начпо некалькі ключавых словаў — «прыборка» «камандзір» і «…бе».

«Гэта ж трэба! Толькі што пра гэта думаў, і — на табе! Відаць кепска прыборку зрабіў і за гэта камандзір ці спагнанне аб’явіў, ці, можа, аблаяў», — падумаў палітработнік, унутрана сцепануўшыся. — Непрыемна, калі матрос пры адмірале такія словы ўжывае. Больш натуральна, калі наадварот. Але што тут казаць? Тлумачыць яму, што з такімі пытаннямі да адміралаў не звяртаюцца, што ён увогуле павінен звяртацца толькі да камандзіра аддзялення, бессэнсоўна.

А матрос стаяў і чакаў. Чаго чакаў? Відаць, справядлівасці. Можа, чакаў, што адмірал зараз жа выкліча ягонага крыўдзіцеля-камандзіра і тут жа на шматкі падзярэ? «Як Бобік грэлку…» — прыйшла недарэчы адміралу паказка, і ён нечакана для сябе заўсміхаўся. Добра так заўсміхаўся. Пабацькоўску. Не, нават па-дзядоўску, бо па гадох якраз у дзяды гэтаму чарняваму азіятку падыходзіў.

— Сынок! Ты ж прысягу даваў! Даваў жа? — Зрабіў паўзу і востра ўперыўся ў матроса. — Даваў?



— Прысяга… э-э… даваў, — згадзіўся матрос.

— Вось! — узрадаваўся начпо. Ён то ведаў, што матрос прысягаў, але не быў упэўнены, што той зразумее сэнс ягонага пытання, і тады іхняя гутарка пяройдзе ў гутарку двух глухіх. — Даваў! А там што запісана? Што там запісана? (Чорт, ці не вельмі складана я выражаюся?)

— Што запісана? — паўтарыў матрос.

— А там запісана так: «стойка пераносіць ўсе нягоды і цяжар ваеннай службы»! — Адмірал выпрастаў спіну і падняў угору па-старэчаму крываваты ўказальны палец. — Стойка! Пераносіць! Нягоды! А тое, што цябе камандзір… э-э… (А-а! А то не зразумее.) …вы…баў! Ха! Плюнь! Гэта і ёсць тыя самыя нягоды!

— Нэ запісана, — сказаў матрос.

— Ты-ы… гэт-та… вось што… Ты са мной не спрачайся. Ты колькі служыш?

— Я колькі служыш?

— Ну вядома, ты! Я ўжо трыццаць шосты год служу…

— Я — карась. Паўгода служыш.

— Дык ты са мной не спрачайся. Значыць так: перадасі камандзіру, што я загадаў яму ў цябе залік тэксту прысягі прыняць. І хай мне дaложыць. Зразумеў? Паўтары!

— Камандыру мая прысяга казаць, камандыр адміралу казаць…

— Правільна! Толькі ты без крыўды. Гэта ж служба, сынок. А тое, што цябе камандзір вы..баў, ты і ў галаву не бяры. Гэта служба! Яна такая! Цябе вы…балі, а ты страпянуўся — і служыш, быццам нічога не здарылася. Эх! Мне б твае гады!..

Памаўчаў.

— Ты што думаеш, сынок — твайго камандзіра ніхто не …бе? Ха! Каб жа так! Проста вам, матросам, гэта невядома. А насамрэч… Як твайго камандзіра прозвішча? Ягораў? О-хо-хо! Твайго Ягорава камандзір дывізіёна кожны дзень так на каркалыгу надзяе, ажно прасціна ўздымаецца! — Адмірал разышоўся. Бачыў даверлівыя шчылінкі вачанятаў матроса і імкнуўся ў даступнай форме данесці тое, у чым быў пера-

кананы. І, можа, нават выклікаць якіясьці добрыя да сябе пачуцці. — Я твайго Ягорава ведаю. Летась на парткамісіі мы яго так вы…балі, так…

Альбо возьмем камандзіра дывізіёна… Думаеш, яго ніхто не …бе? Памыляешся, сынок, калі так думаеш! Не часта, не. Але хоць раз на тыдзень, камандуючы…

Па сакрэту скажу, сынок. Раз на месяц я ў Севераморску бываю ў начальніка Палітупраўлення. І мяне там так, бывае, …буць! Ты не ўяўляеш! Але вы…буць, я зраблю пэўныя высновы, вярнуся сюды, вы…бу падначаленых… Глядзіш, праз пэўны час і заўвагаў у мой адрас меней. А галоўнае, сынок, галоўнае — не прымаць блізка да сэрца гэта ўсё. Памятаць прысягу і стойка пераносіць… Ты зразумеў, сынок? Цярпі. Прывыкнеш пакрысе. Ды што гэтыя твае тры гады? Бліснь — і дадому. З пачуццём гонару…

Зноў памаўчаў. Матросік чакальна, з надзеяй пазіраў яму ў твар. Што яму яшчэ сказаць? Здаецца, добра ўжо сказаў. Правёў выхаваўчую працу.

— Ну, добра. Ідзі ўжо. Не забудзься камандзіру пра прысягу дакласці.

Матросік крутануўся — далонь ля бесказыркі — кругом. Пайшоў на карабель.

І контр-адмірал пасунуўся на сопку, да сябе ў палітаддзел. Ішоў і злаваўся: «Бач ты, тры словы ведае, з якіх адно не для друку, а мне пярэчыць будзе!» Але нешта трывожыла. Прыйшоў у кабінет, пакорпаўся па кніжных паліцах, знайшоў запыленую кніжку «Агульнавайсковыя статуты Узброеных Сілаў СССР». Памятаў — там недзе знутры на вокладцы тэкст прысягі павінен быць. Ага. Вось. Прабег вачыма: «Я, грамадзянін… та-та-та… камандзіраў і начальнікаў.

Я клянуся… та-та-та-та… і Савецкаму ўраду.

Я заўжды гатовы… мужна… та-та-та… і самога жыцця… — Ёркінк літар! — Калі ж я нарушу…!» Няма пра нягоды і цяжар! Я ж гэтыя словы як сваю маму памятую! Дзе ж? Ага! Так і ёсць — пераблытаў. Пра нягоды — гэта ў другім артыкуле «Статута ўнутранай службы». Некалі ў ваеннай палітвучэльні прымушалі на памяць — вось і засела, ёксель-моксель! Ну, ды і хрэн з ім, з тым матросам. Усё роўна ён, відаць, нічога з той прамовы не зразумеў.

Зразумеў. А паколькі па моладасці заступаў на дзяжурства амаль штодня, то ўперадзе была цэлая ноч. Прыстроіўся пад лямпачкай на скрынцы з ЗІПам, і на аркушы з вучнёўскага сшытка ў клетку напісаў ліст. Да дзядзькі ў Маскву.

«Ас-салом алейкум, Юльчы-акя! Хай Алах усемагутны і справядлівы пашле табе, тваёй сям'і здароўе, доўгі век, хай твой дом будзе як поўная піяла…

…Юльчы-акя, я не турбаваў бы цябе, але тое, што я маю паведаміць, я магу даверыць толькі табе. Ты — мой дзядзька і разумееш, што апрача цябе пра гэта не павінны даведацца нашы… Ніхто з землякоў, а асабліва са сваякоў…

…Я служу на СКРы, служыць цяжка ў тым сэнсе, што вельмі мала прыходзіцца спаць. Тут усталяваны такі парадак, што маладыя матросы, а нават і маладыя афіцэры маюць мала правоў. Вось і мне прыходзіцца амаль кожны дзень заступаць на дзяжурства. Гэта калі карабель наш стаіць ля прычала. У моры лягчэй.

А яшчэ я паводле раскладу па прыборках з'яўляюся прыборшчыкам каюты камандзіра. Гэта значыць тры разы на дзень, па камандзе, я павінен з'явіцца ў тую каюту, вымыць там палубу, пераборкі, подвалак, выцерці пыл, саставіць акуратна кніжкі на паліцы. Увогуле працы няшмат, бо каюта маленькая. Але справа нават не ў прыборцы.

Нават не ведаю, як табе распавесці… Сорамна.

…Карацей — камандзір наш, як я прыходжу на прыборку, зачыняе каюту на ключ і… Ну, ты разумееш, Юльчы-акя? Мне сорамна і балюча, і страшна — ён можа зрабіць са мной што заўгодна. Напрыклад, шапнуць «гадкам», і мяне могуць выкінуць у моры за борт. Тут вельмі злыя «гадкі» — гэта матросы, якія заканчваюць службу. Камандзір ім спрыяе ва ўсім, а яны гатовы выканаць любое яго даручэнне.

Сёння па прычальнай сценцы ішоў вялікі начальнік, адмірал. Я рызыкнуў, збег на сценку і распавёў яму пра тое,

што камандзір СКРа мяне амаль кожны дзень гвалціць. І ты ведаеш, што ён мне адказаў? Ён адказаў, што на флоце ўсе знаходзяцца ў палавых адносінах. Што нават з ім (я ледзьве не разрагатаўся, калі ён мне пад вялікім сакрэтам гэта паведаміў — ён зусім стары, і я не ўяўляю, што хтосьці на яго можа пакваліцца) раз на месяц нейкі ягоны начальнік робіць тое ж, што са мной камандзір.

Юльчы-акя, ты жывеш у Маскве і маеш сувязі. Зрабі, каб мяне перавялі на іншы карабель. Інакш мне не жыць…

*

— Юльчы-мульчы… — незадаволена перадражніў асабіст, разгарнуўшы аркушык у клетку. — Набяруць на флот чурбаноў, а ты правярай, што я ны тут панапісалі… Глядзі вось, — сунуў аркуш суседу, — гэта якая мова? Узбецкая, туркменская? Можа, азербайджанская? У Маскву піша, Багіраву Юльчы. Сваяку, відаць… Паўсюль распаўзліся…

— Не, гэта відаць фарсі… А можа, і не… Халера яго ведае! Паслухай, ну якія сакрэты можа гэты чурка напісаць? Што, з-за гэтага аркушыка будзеш перакладчыка шукаць? Невядома з якой мовы?

— Ну, паколькі мы выбарачна правяраем, будзем лічыць, што гэты ліст да мяне не трапляў. Так? Не настукаеш?

— Кінь дурное…

Юльчы аказаўся сапраўды з сувязямі. Праз тыдзень на Паўночны флот выправілася камісія. Ажно з ЦК КПСС. Яшчэ два тыдні флот стаяў ракам. Разабраліся з кім папала. І вы… блі. У харошым сэнсе, спагнанні аб'явілі. Камандзіра таго пасадзілі. Матросіка перавялі. Сакрэтны загад «Аб выпадках гомасексуалізму на Паўночным флоце» выдалі. Над ім рыдаў са смеху ўвесь ВМФ.



*

Калі продкі сучасных рускіх былі яшчэ цюркамі і вызнавалі паганства, быў у іхным пантэоне бажок, які адказваў за рост насельніцтва. Зваўся «Баць». Потым частка цюркаў ад сваёй цюрскасці адраклася і падалася ў славяны, але слова гэтае і вытворныя ад яго перайшлі ў мову маскавітаў. А яшчэ пазней, як рускія ў канцы васямнаццатага стагоддзя Літву захапілі і Беларуссю назвалі, тыя цюркізмы і да нас трапілі. «Бацька», дарэчы, таксама ад таго бажка. След двухсотгадовай каланіяльнай залежнасці.

Адно толькі слова, а якая безліч нюансаў!

## Здрадная свіння

Стаіць у Нарвегіі, непадалёк ад мяжы з Расіяй, высокая сопка. Ці то насупраць Печангі, ці то Ліінахамары, а можа, Нікеля. Гэта зараз не вельмі важна. Важна тое, што на сопцы гэтай вельмі магутны тэлескоп усталяваны, і калі няма дажджу або снегападу, праз гэты тэлескоп уся Кольская затока разам з Мотаўскай — як на далоні. А гэта ж амаль што ўвесь Паўночны флот. Бартавыя нумары караблёў, ды што там бартавыя — баявыя нумары на матроскіх галандках супастаты натаўскія чытаюць. Прынамсі так асабісты, то рэч «унукі» жалезнага Фэліка, земляка нашага з-пад Івянца, кажуць.

Прынеслі неяк начальніку супастацкаму здымкі. На іх стратэгічны падводны крэйсер з Сайда-губы ў мора выходзіць. Дакладваюць, так і так — на баявую службу выходзіць падводны крэйсер тыпу «Кальмар», праект 667 БДР, шаснаццаць балістычных ракет, камандзір Іваноў… Ну, усе звесткі далажылі начальніку, што з розных выведных крыніц атрымалі. Толькі, кажуць, ёсць тут адна незвычайнасць. Што б гэта магло значыць, не можам расшыфраваць. Збіралі ўсіх адмыслоўцаў, мазгавы штурм рабілі — не, ніякай

прыстойнай версіі не выходзіць. Тут, сэр начальнік (бос паіхняму), вось на чорнай спіне ракетна-ядзернага монстра расійскага, нешта белае. Гэта, у чорных бушлатах і аранжавых выратавальных камізэльках — швартоўныя каманды. Гэтыя, на мосціку, у скураных куртках з башлыкамі, група кіравання — камандзір, штурман, вахценны афіцэр. З гэтымі ўсё зразумела. Нават прозвішчы ведаем. А вось, на ракетнай палубе, нешта вельмі свінню нагадвае. Можа, якія новыя сакрэтныя сродкі выратавальныя? Гідракасцюм невядомы? Тады чаму не вертыкальна, а гарызантальна? Можа, у стане алкагольнага ап'янення? Яны часам злоўжываюць — традыцыя такая нацыянальная — і, бывае, не паспяваюць да выхаду ў мора працверазець… Ці сапраўды свіння? Падобна — так. Але навошта на стратэгічным ракетна-ядзерным караблі — свіння?

Прыгледзеўся бос да здымка, нават лупу ўзяў. Сапраўды — свіння.

— Думаю, — кажа, — гэта нейкая новая зброя расійская. На Чарнаморскім флоце, па маіх даных, яны баявых дэльфінаў рыхтуюць — смяротнікаў — варожыя караблі падрываць. А тут, відаць, баявых свіней… Хоць… Ах, гэта таямнічая руская душа!.. А выклічце мне майго асабістага сакрэтнага эксперта!

І выклікалі. Ці то эмігрант з «першай хвалі», ці то збеглы кэгэбульнік. Вельмі сакрэтны.

Паглядзеў эксперт, адразу важны стаў:

— Паслугі мае, — цэдзіць праз губу, — эксклюзіўныя. Ніхто апроч мяне растлумачыць гэты факт не здолее. Таму гэта каштаваць вам будзе… — і лічбу называе такую, што падводніку расійскаму каб столькі хоць бы ў рублях савецкіх атрымаць, трэба гадоў семдзесят з «жалеза» не злазіць. — А экспертнае заключэнне, што я вам даць маю, вельмі сур'ёзнае для забеспячэння бяспекі…

— Ноў проблем, — кажа бос. — Дзеля бяспекі гэта дык зусім грошы невялікія… Ну, і што гэта за аб'ект на стратэгічным аб'екце (пшэпрашам за таўталогію, сэр эксперт)?

— Гэта свіння, сэр бос.

— І я думаю, што свіння, сэр эксперт. Але якую небяспеку нясе гэтая свіння нашай нацыянальнай бяспецы? Мабыць, гэта баявая свіння-смяротніца, накшталт баявых дэльфінаў?

— Так, сэр бос, гэта свіння-смяротніца. А факт яе знаходжання на борце стратэгічнай падводнай адзінкі сведчыць аб знаходжанні на гэтым борце высокага начальніка, што ў сваю чаргу сведчыць аб незвычайнай баявой службе гэтай адзінкі, можа нават аб баявой службе, сумешчанай з перадыслакацыяй гэтай адзінкі на іншы акіянскі тэатр… Так што чакайце ў хуткім часе гэты крэйсер на Ціхім акіяне…

Як у ваду глядзеў!

*

Камандуючы флатыліяй падводных лодак меў на кожным пагоне па дзве зоркі-«павукі», і вельмі хацеў яшчэ адну — на грудзі. Камандуючы, віцэ-адмірал, не быў яшчэ Героем Савецкага Саюза. А тут выпадала неблагая магчымасць, сябры з Галоўнага штабу ВМФ шапнулі, што, калі ўсё пройдзе «ціп-топ», старшы на пераходзе атрымае зорку. Тую самую, залатую. Дык не аддаваць жа яе камандзіру лодкі! Хоць і рызыкоўна, але такога выпадку больш можа не здарыцца. Гады, ведаеце…

…Кожнаму, хто цікавіцца, вядома — самыя стратэгічныя ў свеце падводныя лодкі будуюць карабелы з Северадзвінска, што на Белым моры. І што з розных прычынаў гэтыя атамныя веліканы з ядзернай зброяй служаць толькі на Паўночным флоце і на Ціхаакіянскім. Зазвычай караблі з Белага мора пераганялі на Камчатку амаль кругасветным шляхам — вакол Еўропы–Афрыкі–Азіі. Памазгавалі ў Маскве людзі з дзяржаўнымі мазгамі і вырашылі паспрабаваць пераганяць іх кароткім шляхам — паўночным марскім, уздоўж эсэсэсэраўскага ўзбярэжжа. Здагадаліся — так больш вы-

гадна. І выдзелілі на гэтую справу першаму камандзіру, які лодку з Поўначы на Ціхі акіян перагоніць, Залатую Зорку. Ну, і яшчэ там ордэнаў колькі, медалёў — тым, на каго ў выпадку паспяховага пераходу зампаліт, прадстаўнік кіруючай партыі ў флоцкім целе, пакажа.

Дык што гэта будзе? Камандзір — Герой, а Камандуючы — не? Таму і прапанаваў сябе адмірал з двума «павукамі» на пагонах ў старшыя на пераходзе.

У Карабельным статуце Ваенна-марскога флоту СССР абавязкі распісаны ад камандзіра злучэння і ніжэй, флатылія ж падводных лодак з'яўляецца аб'яднаннем. Якія абавязкі ў Камандуючага аб'яднаннем? А-а… Вось! Няма іх у Статуце. Апрача таго, артыкул 132 кажа так: «Прысутнасць на борце карабля старшых начальнікаў не здымае з камандзіра карабля адказнасці за карабель і выкананне сваіх абавязкаў». Так што, калі пераход пройдзе ўдала — Камандуючы малойца і Герой, калі не — камандзір падлодкі чмо і праснак каровін.

Стратэгія, яцішкін бабай!..

…Пяць гадзінаў да выхаду. «Увага! На карабель прыбыў Камандуючы флатыліяй і афіцэры штаба!» Праз дзесяць хвілінаў: «Камандзірам падраздзяленняў сабрацца ў каюткампаніі на даклад!» «Бычкі» — так для сціслацці клічуць падводнікі камандзіраў баявых частак, — ціха мацюкаючыся, пасунуліся ў пяты «біс». Кают-кампанія забіта штабнымі. Пазаймалі ўсе крэслы. Стоўпіліся «бычкі» — хто дзе — у праходах між сталамі.

— Таварышы афіцэры!! — Гэта каманда такая. Матросам гарлаюць «Смірна!», а афіцэрам — вось так.

Усталі, хто сядзеў. Камандуючы зайшоў. Сеў у камандзірскае крэсла. Морда чырвоная, як бурак. У яго заўсёды чырвоная. Камандзір збоку прытуліўся.

— Таварышы афіцэры. — Таксама каманда. Толькі больш лагодная. Матросам кажуць «Вольна!».

Селі.

— Камандзір БЧ-1, ваш даклад.



— Камандзір БЧ-1 капітан трэцяга рангу Смыкаў. У штурманскай баявой часці асабовы склад на борце цалкам, навігацыйны комплекс запушчаны, курсаўказальнікі ў мерыдыяне, ЗІП укамплектаваны… Баявая частка да паходу гатовая.

— Камандзір БЧ-2…

— Командыр БЧ-2, капытан, — з моцным украінскім акцэнтам, — другого рангу Марцын. У ракэтноі боэвоі часты особовы склад… …готові.

— Камандзір БЧ-3…

— …

— …

— Памочнік камандзіра!

— Памочнік камандзіра капітан трэцяга рангу Рулькевіч. Асабовы склад службы забеспячэння на борце цалкам…

— Кок добры?

— На «гражданцы» быў шэф-поварам у рэстаране, таварыш Камандуючы (па статуце звяртацца трэба па званню, «таварыш віцэ-адмірал», але ўсе ведаюць, што ён вельмі любіць так — «таварыш Камандуючы…». Амаль «таварыш Галоўнакамандуючы» Нават амаль «Вярхоўны Галоўнакамандуючы»!..)

— Добра… Далей…

— Прадавольчыя запасы загружаны…

— Свініну загрузіў?

— Свініны бербаза не дала, толькі ялавічына і кенгураціна, таварыш Камандуючы.

— Ды ты што!? Як жа ж без свініны? Я ж без свініны… — Павярнуўся да камандзіра бербазы, «чырванапёрага» палкоўніка (форма чорная, пагоны з чырвонымі «прасветамі»): — Ты што, Іван Нікіфаравіч, я ж табе за гэта анус парву, я ж без свініны… І не рабіце тут твар дамінантнага бабуіна, палкоўнік!

— Ёсць, таварыш Камандуючы! — Аніякіх лішніх словаў, бо сапраўды парве. І шэптам да памочніка: — Дай паперку!

Паперку дай! Запіску напішу — возьмеш на падсобнай гаспадарцы!

Чатыры гадзіны да выхаду. «Так, туша заважыць хай сто кілаграмаў, — “маракаваў” Рулькевіч. — Не, можа, нават сто пяцьдзясят. Будзем сыходзіць з горшага. Да падсобнай гаспадаркі два з нечым кіламетры. Колькі трэба матросаў, каб перанесці свіную тушу ў сто — сто пяцьдзясят кілаграмаў за два кіламетры? Задачка, туды-т яе ў цёціну пячорку! Хай па трыццаць кіль на рыла… Не, хілякі гэтыя па трыццаць доўга несці будуць. Па дваццаць… Краіне патрэбны героі, а прысылаюць дыстрофікаў… Гэта значыць сто пяцьдзясят кіль на дваццаць — трэба сем з паловай матросаў… Цьфу, ты! Восем матросаў. А як несці? Вяроўкамі абвяжам!»

— Боцмана ў цэнтральны!

— Боцман, тэрмінова мэтраў дваццаць-трыццаць якога ліня. Нятоўстага. Як няма? Што значыць — няма? Ты боцман ці дзе? Ну, блін, выйдзем у мора, я табе адмасірую прастату! Давай пакуль два кідальныя канцы. Не, тры! А-а! Чатыры давай!

*

Шмат анекдотаў складзена флоцкімі стваральнікамі фальклору пра берагавую базу ўвогуле і пра падсобную гаспадарку ў прыватнасці. Падсобная гаспадарка — гэта папросту свінарнік, няштатнае ўтварэнне палітаддзельскай думкі і бербазаўскай дзеі. Каб аб’едкі з берагавога камбуза дарэмна не прападалі. Працаваць туды пасылаюць зазвычай сыноў Цэнтральнай Азіі, паслядоўнікаў вучэння Прарока Магамеда, якія кепска ведаюць рускую мову. Хоць якая ад іх карысць. І заадно — барацьба з рэлігійным дурманам.

…Матрос у свінарніку пакруціў у руках запіску, выпісаную камандзірам бербазы, і падвёў Рулькевіча да загародкі, дзе рохкаў вялізны, што гара, парсюк.

— Забірай, начальнік.

— Ты што! — ажно захлынуўся Рулькевіч. — Што я з ім рабіць буду?! Ты мне тушу давай!

— Бяры туша, начальнік!

— Ангідрыт-тваю міндалевокую маму… Мяса! Мяса давай! Свініну!

— Бяры свініна, начальнік. Зробіш чык-чык, мяса будзе.

— Ты! Ты сам зрабі «чык-чык»!

— Не, начальнік! Суюнбай карміць — так, чык-чык — не!..

…Гадзіна да выхаду. Прыбралі канцы электрахарчавання з берага. Прыбралі дадатковыя швартовы. Шматтысячатонны падводны волат ля пірсу на двух нітках — насавым і кармавым швартовах. Камандзір на мосціку, нервуецца:

Ну дзе гэты ёлуп! Паслаў, даруй Госпадзе, Ты мне памочнічка! І матросаў звёў! Колькі з ім пайшло? Старпом! Колькі чалавек з памочнікам пайшло? А хто павінен ведаць? Тэ-экс. А што гэта там? Сігнальшчык! Бінокль! О! Ідуць! А гэта што? Ну, вагіна кабылячая! Ён жывую свінню сюды валачэ!

Прывязаўшы да ног кідальныя канцы, матросы перастаўлялі парсюку ногі. Парсюк упіраўся. Да мосціка даносіўся ягоны асіплы віск. А вагі ў ім было, відаць, за дзвесце.

— Мост — цэнтральнаму, — ажыў на мосціку «Каштан».

— Ёсць мосцік!

— Аператыўны перадаў — Камандуючы да нас выехаў.

На пірс упацелыя матросы зацягвалі парсюка. Той растапырваў ногі і адхіляўся ўсім тулавам назад. Рулькевіч піхаў яго ў круглыя кумпякі.

— Да кармы цягніце, ёхарны клітар! — зароў у «мацюгальнік» старпом. — Камандуючы на пад’ездзе! На ракетную палубу! Перакіньце пару латкоў ад электрахарчавання! Па латках!

…«Волга» Камандуючага ўз’ехала на пірс. На ракетнай палубе шчыльным шыхтом стаяла кармавая швартоўная каманда. За спінамі швартоўшчыкаў, прысеўшы, Рулькевіч чухаў парсюку за вухам: «Дзюдзя. Дзюдзя. Ну дзюдзя, толькі не высоўвайся! Хай флатаводзец у «бітон» залезе».

Абвіты канцамі парсюк спробаў выскачыць з-за спінаў на адміральскія вочы не рабіў. Стаяў сабе раскірачаны.

— Смірна! Таварыш Камандуючы…

— Вольна! Аддаць кармавы! — Швартоўшчыкі рассыпаліся, пабеглі ў карму.

— Аддаць насавы! Тры гудкі тыфонам! Правая — назад малы! Руль — лева дзесяць!

Паехалі. На чорным целе, як яечка на патэльні, свяцілася цела белае. Здраднае. От жа, як не проста — рэжым сакрэтнасці!

## Спёка

Чэрвень. Спёка. Штыль. Па бакінскай бухце манеўруюць тры белыя катары. То ідуць кільватарам, то перашыхтоўваюцца фронтам, пеленгам, уступам… Гэта курсанты-каспійцы-трэццякурснікі-штурманы практыкуюцца.

Тры катэры — гэта як быццам карабельнае злучэнне. Курсанты выконваюць ролю галоўнага каманднага пункту. Мяняючыся, кожны працуе нейкі час вахценным афіцэрам, штурманам, рулявым, сігнальшчыкам. За працэсам млява назірае выкладчык тактыкі, стары марскі воўк, капраз.

Рулюе зараз Юрка Крук. Учапіўся потнымі рукамі за «рогі» штурвала і мітусліва перакладае руль з борта на борт, марна спрабуючы супакоіць ашалелую картушку кампаса на зададзеным дзяленні. Картушка звар'яцела круціцца то ў адзін бок, то ў другі. Адпаведна рыскае па вадзяным люстэрку і катар.

— Рулявы! Ты што ёрзаеш як… жопай па патэльні! — Не вытрымлівае капраз. — Не перакладай руль памногу. Спакайней! Па два-тры градусы…

З Юркі, і так потнага ад бакінскай спёкі, пачынае цячы. Ён спыняе руль недзе ля дыяметральнай плоскасці. Спыняецца і кампас. Толькі не на зададзенай лічбе. Катар больш не рыскае, але рухаецца наперарэз суседу. Пару хвілінаў гэтым кірункам, і можна «пацалавацца».

— На румбе?! — пытае капраз, спрабуе гэтым статутным пытаннем-камандай падказаць рулявому, што ён трымае не той курс, якім ідзе «карабельнае злучэнне».

— На румбе курсант Крук! — рапартуе потны Юрка замест, каб назваць курс з кампаса. Ну — бывае. «Перамкнула».

— Ч-чувыр-рла ш-шызая! К-кур-рс які?!

— Трэці курс… — здзіўлена спявае Юрка, і ў ягоных валошкавых вачах свеціцца паблажлівая ўсмешка — маўляў, зусім здзяцінеў стары, забыўся, які курс практыкуецца…

## Час ідзе

Раніца. Цэнтральны пост падводнага ракетаносца, што аб'ёмістай постаццю прытуліўся да прычала судабудаўнічага завода. У камандзірскім крэсле старпом. Клічуць Барысам Фёдаравічам. Але гэта толькі афіцэрам ад каплея, і зусім старажытным мічманам. Мне, дарэчы, так звяртацца было дазволена ў першы ж лейтэнанцкі год — як дапамог яму здаць экзамен па «штурманіі». Барыс Фёдаравіч вырас у старпомы з мінёраў, і што датычыць усялякіх там артадромій, дэвіяцый і квазікаардынатаў — па ватэрлінію драўляны. І калі экзамен у штабе флоту быў паспяхова здадзены, а мы забраліся ў кубрык «Яраслаўца», каб рушыць у родную базу, старпом выцягнуў з «дыпламата» паўлітру спірту, кавалак сёмгі, бляшанку чырвонай ікры і загадаў наліць. Потым пстрыкнуў па шклянцы і сказаў: «Расцеш, лейтэнант… Са старпомам п'еш… Можаш клікаць мяне Фёдаравічам».

Але я не аб тым… У крэсле, значыць, ён. Рэзка вішчыць «Каштан»: «Цэнтральны — верхняму вахценнаму!» — «Ёсць цэнтральны!»

— На борт прыбылі рабочыя завода

— Прапусціць!

Хутка з шахты рубачнага люка з'яўляюцца дзве маладыя кабеты. Паказваюць дзяжурнаму па караблю пропускі. Барыс Фёдаравіч тым часам забаўляецца — шчоўкае тумблерамі «Каштана», і ў цэнтральны пост урываюцца гукі з розных адсекаў — стукі, галасы, гудзенне механізмаў. І сярод гэтага — гучна так, выразна, перакрыўшы ўсё астатняе, аднекуль адтуль даносіцца слова «…уй!». Кабеты спачатку робяць выгляд збянтэжаны, потым абураны. У тыя, здаецца, не такія ўжо і далёкія часы мужчыны не мацюкаліся ў прысутнасці жанчын, прынамсі флоцкія мужчыны, гэта лічылася непрыстойным.

Барыс Фёдаравіч — халерык: «На маім караблі! Пры жанчынах! Зганьбілі!» — імгненна намалявалася на расчырванелым твары. Шчоўкае тумблер «Цыркуляр», і па падводным крэйсеры з нарастаннем напругі грыміць: «Увага на караблі! Гаворыць старпом! Хто сказаў «…уй»?!» Вахценныя з адсекаў, захоўваючы чаргу, высокаарганізавана, як і мусіць быць на элітнай адзінцы стратэгічных сілаў краіны:

— У першым «…уй» не вымаўлялі!

— Ёсць, першы!

— У другім «…уй» не вымаўлялі!

— Ёсць, другі!

— У трэцім…

Усяго на той стратэгічнай адзінцы адзінаццаць адсекаў. Сёння гэта не ваенная таямніца.

А нядаўна я даведаўся, што Фёдаравіча ўжо няма.

Ах, як ляціць час!



# Жарт

«Увага! Гаворыць старпом! — разнёс па адсеках «Каштан». — Афіцэрам і мічманам заўтра а сёмай гадзіне прыбыць у санчасць для здачы аналізаў. Не занятым на дзяжурстве і вахце сход з карабля дазваляю!». Пад ніжнім рубачным люкам імгненна вырас натоўп і даволі хутка ўсмактаўся ў яго — спяшаліся да сем'яў.

Падводны ракетаносец рыхтаваўся да аўтаномкі. Падрыхтоўка гэтая складаецца з велізарнай колькасці патрэбных, не вельмі патрэбных і зусім непатрэбных мерапрыемстваў, запаўнення масы папераў, а больш за ўсё з мітусні, хранічнага недасыпання, нерваў і мацюкоў.

Чарговым дзеяннем быў медыцынскі агляд экіпажа. Не вельмі патрэбным, бо, каб вызваліцца ад аўтаномкі па медыцынскіх паказаннях, трэба было мець (паводле распаўсюджанага «чорнага» жарту) рак маткі альбо трупныя плямы.

…Сярод пакінуўшых чэрава падводнага волата быў і начхім, Валодзя Сымончык. Ягоныя жонка з дзецьмі гасцілі ў сваякоў, але тарчаць на абрыдлым «жалезе» вельмі не хацелася. Таму карыстаючыся нячастай магчымасцю пакінуць падлодку, Валодзя закінуў у «дыпламат» дзве пляшкі спірту-рэктыфікату, якім на флоце прамываюць кантакты ўсяго электрычнага, і выбраўшыся на бераг, пакрочыў у вядомым яму накірунку. Вечар абяцаў быць удалым…

…Накрэмзаўшы на паперцы нумар часці і прозвішча, падводнікі сарамліва совалі ў дзвярную амбразуру слоікі з-пад маянэзу і паспешна выходзілі на ганак санчасці. Калі табе паміж дваццаццю і трыццаццю гадамі, а лабарантка гожая і сексапільная, працэс здачы выдзяленняў арганізма не зусім ёмкі. Там, на ганку, палілі цыгарэты, чакалі.

…З пакутліва-бледным тварам прысунуўся Сымончык. Гледзячы па ўсім, учарашні вечар атрымаўся. Крыху

аддыхаўшыся, выцягнуў з кішэні шыняля бутэльку піва. Павалтузіўся, адкаркаваў аб парэнчу ганка, працёр далонню рыльца, ўставіў у рот. Некалькі разоў булькнуў. Не пайшло. Здрыгануўся ўсім целам, закашляўся. Не рэагуючы на падначкі, пасунуўся ў санчасць. Там сунуў у лабараторыю сваю пачатую бутэльку.

— Вы б яшчэ трохлітровы слоік прынеслі, — абурылася лабарантка (піва ў бутэльцы было каля трох чвэрцяў).

— А што? Замнога?

— Натуральна, замнога! Трэба каля ста грамаў…

— Без пытанняў… — і, перакуліўшы ёмкасць, Валодзя вялікімі глыткамі давёў змесціва да патрэбнай колькасці. Потым задаволена ікнуў і з годнасцю выйшаў.

Над залівам ляніва варушылася жоўта-зялёная пасма палярнага ззяння. Рыпеў пад чаравікамі снег. Няроўным шыхтом, панура, людзі ў чорных шынялях спускаліся з сопкі да вады, дзе ля пірса іх чакала вялізнае гарбатае цела…

## Апендыкс

— Вы ўпэўнены, што аперацыя неабходна? — сашчапіўшы бровы над пераноссем, перапытаў камандзір.

— Упэўнены… — няўпэўнена пацiснуў плячыма Зміцер.

— Та-ак… Эй, вы там! Запісаць у журнале ўліку падзеяў: «Аперацыю па выдаленню апендыцыту ў капітан-лейтэнанта Буцёнка начальніку медыцынскай службы лейтэнанту Грому дазваляю». Дайце распішуся. Ну, глядзі, доктар…

Справа адбывалася на падводным ракетаносцы, які ўжо больш за месяц круціўся ў Грэнландскім моры на мяжы пакавых ільдоў паўночней архіпелага Шпіцберген. У Колі Буцёнка забалеў жывот. І чым далей, тым балеў мацней. Карабельны доктар, учарашні выпускнік ваенна-медыцынскай акадэміі лейтэнант Зміцер Гром, абмацаўшы таўставатае Міколава пуза, задуменна, не зважаючы на пратэсты, без чаргі прайшоў у курылку пятага «біс» і выпаліў там пачак «Беламору». Потым перайшоў у цэнтральны пост і паведаміў камандзіру, што ў Міколы апендыцыт і трэба рабіць аперацыю.

Адразу ўзнікла праблема з асістэнтам. Медбрата лодачны штат не прадугледжваў. Урэшце зампаліт згадаў, што нехта з афіцэраў экіпажа да ваенна-марской вучэльні ці то скончыў ветэрынарны тэхнікум, ці то выгналі. Гэты факт цьмяна адклаўся ў яго памяці, калі ён, каб прабавіць час, гартаў асабовыя справы афіцэраў. Кінулі покліч па «Каштане». Чалавекам, які змяніў мірныя клізму і фанендаскоп на балістычныя ракеты, як выявілася, быў каплей з бэчэ-два Паша Нычка. І як толькі Павелка не адбіваўся, быць асістэнтам загадалі, матывуючы тым, што ён хоць ведае ці, прынамсі, павінен ведаць назвы хірургічных інструментаў.

Колю паклалі на адкідны стол у лазарэце, прывязалі рукі і ногі і Паша пагаліў яму жывот. Аж да… ну, ніжэй «лініі бікіні». Зміцер намазаў жывот ёдам. Зрабіў надрэз. Паказалася жоўтае, друзлае сала. Паша казаў — пальцы на чатыры. Потым Пашу стала крыху млосна і ён стараўся туды, у крывавую дзірку, не глядзець. Падаваў інструменты і выціраў Зміцеру лоб.

Вахту ў гэты час не мянялі. Праход праз пяты «біс» адсек, у якім лазарэт, забаранілі. Экіпаж нёс вахту і чакаў. Прайшло дзве гадзіны.

— Доктар, сука! Дзімка, падла ты такая! Пашка, скажы яму! Зашывайце ўсё назад! — млява заскуголіў Мікола, калі доктар сказаў, што вельмі стаміўся, і загадаў асістэнту шукаць сярод Міколавых кішак апендыкс, папярэдне на словах апісаўшы яго выгляд. Паша пачаў корпацца, а Мікола са словамі: «Лепей я з перытанітам пахаджу», парваў прывязь левай рукі. За гэта атрымаў у лоб, рука была нанава прывязаная, і далей ён толькі ціха стагнаў і брудна абзываўся.

Прайшло восем гадзін. Штурман употай пачаў разлічваць найкарацейшы шлях у базу. Нікому нічога не было вядома. Колю шкадавалі ўсе.

Дзевяць гадзін. «Трэцяй змене падрыхтавацца на вахту!» Уф-ф! Жывы. Апендыкс Зміцер знайшоў недзе аж ля нырак.





# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Ляхновіч** Павел Аркадзьевіч

# Зялёны дуб

*Аповесць, апавяданні, навелы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Ніна Шыдлоўская*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Дызайн вокладкі *Анатоля Лазара* (adliga.com)
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 21.06.2012.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 9,45. Ул.-выд. арк. 7,24.
Наклад 300 ас. Зак. 458.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.